Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 41 – 42 (5372 – 5373)
Чацвер, 4 красавіка

# Прэзідэнт краіны падпісаў новую рэдакцыю Закона аб адукацыі

Кіраванне адукацыяй

## Зароблены рубель даражэй за падараваны

***Сустрэцца з начальнікам упраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама аказалася справай даволі няпростай. Таіса Іванаўна Данілевіч цяпер проста няўлоўная. Працаваць на гэтай пасадзе яна стала толькі 2 месяцы назад і спяшаецца ўнікнуць у курс спраў. Таму і графік яе работы распісаны амаль па гадзінах, а іншы раз выходзіць за свае межы.***

***Наша сустрэча ў... сем гадзін раніцы таксама стала гэтаму пацвярджэннем.***

**- Таіса Іванаўна, пачынаць работу ў такую рань для вас усё ж выключэнне?**

– Ні ў якім разе. Хутчэй за ўсё гэта правіла. Уставаць рана – гэта не толькі мой звычайны рэжым, а жыццёвы прынцып. Ведаеце прымаўку: "Хто рана ўстае – таму Бог дае".

Я ўвогуле лічу, што сапраўдны кіраўнік павінен прыходзіць на работу за гадзіну да яе пачатку. У ранішняй цішыні лягчэй сканцэнтравацца, засяродзіць увагу на новым працоўным дні, прааналізаваць ужо зробленае. Інакш кажучы, сабрацца з думкамі. А іх у мяне цяпер хапае.

Я ж толькі-толькі пачынаю асвойваць сваю новую працу.

**- А ці такая яна новая для вас?**

– Новая для мяне пакуль толькі пасада начальніка ўпраўлення, але ў сістэме адукацыі я ўжо назапасіла пэўны і даволі багаты вопыт. А пачынала свой працоўны шлях з настаўніцтва ў пачатковай школе, калі скончыла Ваўкавыскае педагагічнае вучылішча. Я ж нарадзілася на Гродзеншчыне і толькі пасля размеркавання апынулася ў Мінскай вобласці. Ужо потым быў педагагічны інстытут, работа ў сістэме адукацыі Салігорска.

Пачаткам маёй кіраўніцкай дзейнасці ў гэтай галіне можна лічыць працу загадчыцы гарадскога аддзела адукацыі, а ўжо потым была работа старшынёй гарадскога Савета дэпутатаў. Дарэчы, з гэтай пасады я і была запрошана ўзначаліць упраўленне адукацыі Мінаблвыканкама. Сапраўднай жыццёвай школай лічу для сябе папярэднюю работу. Я вучылася там мудрасці, арганізаванасці, дыпламатычнасці, інтэлігентнасці, сабранасці і, урэшце, культуры чалавечых узаемін. Няма ў Салігорскім раёне ніводнага працоўнага калектыву, дзе б я не пабывала. І ніколі не саромелася вучыцца ў тых, кім кіравала. Вось і цяпер пачала сваю працу са знаёмства з кіраўнікамі адукацыі, з настаўнікамі, з вучнямі. За час свайго кіраўніцтва ўжо наведала амаль усе раёны і маю пэўную карціну сённяшняга стану адукацыі вобласці.

**- Відаць, пакуль толькі знешнюю?**

– А мне і гэтага бывае дастаткова, каб вызначыць, хто кіруе навучальнай установай. Праўда, за кароткі тэрмін даскaнала і глыбока не вывучыш сістэму адукацыі вобласці, але паверце, і яе знешні выгляд можа пра многае сказаць. Думаю, што прымаўка "па адзежы сустракаюць – праводзяць па розуму" безнадзейна састарэла. Мяркуйце самі. Пад'язджаеш, напрыклад, да школы і бачыш непрывабны будынак, недагледжаную тэрыторыю альбо ўвогуле паваленую агароджу. Ці будзеце вы цікавіцца пасля гэтага вучэбна-выхаваўчым працэсам? А навошта? Тут яго няма, як няма і сапраўднага кіраўніка.

Дырэктар, на маю думку, – гэта не толькі арганізатар дзейнасці навучальнай установы, гэта чалавек інтэлігентны, творчы, культурны. Гэта, урэшце – асоба, у якой сканцэнтраваны як кіраўніцкія, так і чалавечыя якасці. Гэта прыклад, гэта ўзор.

Можа, вам такія словы пададуцца занадта напышлівымі, але ж сістэма адукацыі тым і розніцца ад іншых галін, што яна заклікана вучыць і выхоўваць.

А каб гэты працэс быў дзейсным, ім павінны займацца сапраўдныя прафесіяналы.

**- Думаецца, што усё ж трэба ўлічваць і сённяшнія сацыяльна-эканамічныя ўмовы. А яны не спрыяюць павышэнню статусу педагога ў нашым грамадстве. І аднымі лозунгамі справу не паправіш.**

- Як не паправіш яе аднымі толькі крыўдамі і нараканнямі ў бок дзяржавы. Такіх нядбайных настаўнікаў, якія імкнуцца толькі да матэрыяльнай выгады, а забываюць пра свой асноўны абавязак – вучыць і выхоўваць дзяцей, я ўвогуле не дапускала б да храма навукі.

Але, на шчасце, іх адзінкі. Асноўная частка работнікаў адукацыі – сапраўдныя педагогі, якія любяць сваіх выхаванцаў і абраную працу.

Пра такіх людзей мы звычайна гаворым, што яны энтузіясты. Але не хацелася б, каб іх энтузіязм, як кажуць, быў голы. Настаў час аддаць належнае настаўніку.

Наш губернатар Мікалай Фёдаравіч Дамашкевіч з вялікай пашанай ставіцца да педагогаў і ніколі не праміне сказаць шчыры "дзякуй" за іх нялёгкую працу. А за ўдзячнасцю кіраўніцтва вобласці стаіць і матэрыяльная падтрымка. Як вядома, у рэгіёне праводзіцца рэгулярная выплата стыпендый адораным навучэнцам. Такога ж тыпу мяркуем ушанаванне і таленавітых педагогаў, вынаходцаў, якія плённа працуюць у адукацыі Мінскай вобласці. Такое заахвочванне надасць стымул у іх рабоце, што хоць у нейкай меры пазбавіць цякучасці кадраў. Прычына гэтага, відаць, у тым, што ёсць альтэрнатыва больш высокага заробку ў іншых структурах.

Таму выйсце з сітуацыі напрошваецца само па сабе. Трэба шукаць дадатковыя фінансавыя сродкі ў самой сістэме адукацыі, выкарыстоўваючы ўсе яе рэзервы.

**- Вы маеце на ўвазе развіццё пазабюджэтнай дзейнасці, якая стала сёння прыярытэтнай?**

– Сапраўды, гэта так. І нашым упраўленнем адукацыі пастаўлена задача перад усімі навучальнымі ўстановамі: саміх сябе забяспечваць не толькі дадатковымі фінансамі, але і харчаваннем. Канешне, па магчымасці.

У праграмах развіцця прафтэхустаноў адным з галоўных пунктаў закладзена актывізацыя дзейнасці вучэбных майстэрняў і гаспадарак для заробку пазабюджэтных сродкаў. У ПТВ Міншчыны, у каледжах і ліцэях ёсць усе магчымасці, каб вырабляць якасную прадукцыю, рэалізуючы яе потым насельніцтву. Трэба шырока выкарыстоўваць і дамоўленасці з вытворчасцю аб выкананні яе заказаў. Тым больш, што за кожнай навучальнай установай замацаваны прадпрыемствы вобласці, і гэтыя сувязі, безумоўна, могуць выйсці за межы звычайнай шэфскай дапамогі.

Што тычыцца школ, школ-інтэрнатаў, дык неабходна ў поўным аб'ёме выкарыстоўваць іх прышкольныя ўчасткі і падсобныя гаспадаркі. І не толькі для вырошчвання садавіны і гародніны, а нават і для жывёлагадоўлі.

Пэўны вопыт у нашай вобласці ўжо ёсць, і яго трэба памнажаць, як і карысць ад яго. Яна не толькі ў забеспячэнні фінансавай падтрымкі, а і ў развіцці працоўнага выхавання школьнікаў і навучэнскай моладзі. Згадзіцеся, працавітасць яшчэ ніколі і нікаму не перашкаджала – яна з'яўляецца асновай жыцця.

Лічу, што дадатковай крыніцай фінансавання могуць стаць і здача памяшканняў у арэнду, і аказанне платных адукацыйных паслуг, і выкананне заявак рэгіянальных службаў занятасці. Зробленыя сродкі могуць быць выкарыстаны так, як вырашыць кіраўніцтва самой установы. Гэта, у першую чаргу, матэрыяльнае стымуляванне педагагічнага калектыву і навучэнцаў, а таксама развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы. Той жа камп'ютэрны клас можа стаць рэальнасцю ў любой школе. Як рэальна і тое, што кіраўніцтва нашых устаноў навучыцца больш ашчадна ставіцца да фінансавання, выкарыстоўваць сродкі строга па прызначэнні.



Вядома, што зароблены рубель – даражэй за падараваны.

Сучаснаму кіраўніку я пажадала б не чакаць падарункаў лёсу, а шукаць шляхі вырашэння ўсіх тых праблем, якія ставіць жыццё. А калі ён можа гэта асіліць, значыць, ён адбыўся як кіраўнік.

**- Таіса Іванаўна, вызваленню дадатковых сродкаў садзейнічае і рэарганізацыя адукацыйных структур, якая, дарэчы, абумоўлівае і скарачэнне кадраў.**

- Такую рэарганізацыю мы будзем праводзіць. Я назвала б яе, хутчэй, прывядзеннем адукацыйных структур у сістэму, што азначае больш збалансаванае ўзаемадзеянне ўсіх звенняў адукацыі, выключэнне дубліравання ўстаноў і кірункаў дзейнасці. Канешне, гэты працэс пацягне і скарачэнне кадраў. Але хачу гарантаваць у гэтым сваю кампетэнтнасць і справядлівасць. І, безумоўна, высокую патрабавальнасць да работы кожнага работніка адукацыі. Дадам: некаторыя кадравыя змяненні ўжо адбываюцца, але пакуль толькі ў кіраўніцкіх колах.

Што тычыцца структурных пераўтварэнняў, дык плануецца ў бліжэйшы час стварыць абласны цэнтр, які будзе займацца пытаннямі прагназіравання і развіцця адукацыі, кантролю яе якасці, дзейнасці маладзёжных і дзіцячых аб'яднанняў, інфарматызацыі навучальнага працэсу, а таксама пытаннямі экалогіі, натуралістычнай работы, мастацкай і тэхнічнай творчасці.

Некаторыя змены адбудуцца ў сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі. На базе некаторых вучылішчаў будуць ствараццa цэнтры прафесійнай адукацыі.

А больш падрабязна кірункі дзейнасці ўпраўлення адукацыі будуць азначаны ў Праграме развіцця сістэмы адукацыі Мінскай вобласці. Над ёй мы зараз і працуем.

**- Дзякуй за гутарку, і плёну вам у працы.**

**Гутарыла Ала КЛЮЙКО.**

**Тэкст новай рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" чытайце на старонках дадатка да "Настаўніцкай газеты" — "Адукацыя: дакументы, каментарыі".**

Указ Президента Республики Беларусь №165

## О преобразовании Белорусской государственной политехнической академии в Белорусский национальный технический университет

В целях повышения роли технического образования в развитии всех отраслей национальной экономики, совершенствования государственной системы высшего технического образования, улучшения качества подготовки инженерных кадров **постановляю:**

1. Преобразовать Белорусскую государственную политехническую академию в Белорусский национальный технический университет.

2. Совету Министров Республики Беларусь в трехмесячный срок:

утвердить государственную программу совершенствования системы высшего технического образования и перспективный план развития материально-технической базы Белорусского национального технического университета на 2003–2008 годы;

принять иные меры по реализации настоящего Указа.

3. Настоящий Указ вступает в силу со дня его подписания.

**Президент Республики Беларусь**
**А.ЛУКАШЕНКО.**

1 апреля 2002 г. г.Минск

Рэдакцыі адказваюць

## Сітуацыя павінна выправіцца

***У рэдакцыю звярнулася група настаўнікаў з Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці. Праблемы, што выкладаліся ў лісце, - вялікая затрымка па выплаце зарплаты за люты і дапамогі на набыццё метадлітаратуры.***

За тлумачэннямі мы звярнуліся да намесніка загадчыка аддзела адукацыі **Таццяны Андрэеўны Марэйка**. Яна растлумачыла, што па стану на 2 красавіка запазычанасць за люты па зарплаце ліквідавана. А ўтварылася яна ў сувязі з тым, што раённы бюджэт фінансуе толькі 40 працэнтаў фонду зарплаты. Астатнія сродкі паступаюць з вобласці, а прыходзяць яны звычайна пасля 20-га дня месяца.

Затрымкі ў выплаце заработнай платы пачаліся ў студзені гэтага года, гэта звязана з недахопам сродкаў у бюджэце раёна. Хоць нельга сказаць, што мясцовыя ўлады абыякава ставяцца да праблем настаўнікаў і не вырашаюць складаныя пытанні.

Што датычыць прагнозу, дык, паводле слоў Таццяны Андрэеўны, у наступным квартале сітуацыя павінна палепшыцца. Гэта будзе звязана з аказаннем платных паслуг установамі адукацыі і больш рацыянальным выкарыстаннем бюджэтных сродкаў. У раёне, на жаль, будзе закрыта некалькі школ, але пры гэтым будзе арганізаваны падвоз вучняў.

Нягледзячы на цяжкую фінансавую сітуацыю, у гэтым навучальным годзе ўсе вучні будуць харчавацца з улікам дзяржаўнай датацыі ў памеры 4 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы. Гэта датычыць і горада, і вёскі.

А ўвогуле можна толькі вітаць мужнасць і аптымізм верхнядзвінскіх настаўнікаў, бо, як сказала Таццяна Андрэеўна, мясцовыя вучні заўсёды паспяхова выступаюць і ў спартыўных спаборніцтвах, і на прадметных алімпіядах.

## "Шведскі стол" для школьніка

***Побач з іншымі арганізацыйнымі пытаннямі дзіцячае харчаванне заўсёды было ў цэнтры ўвагі Гомельскага абласнога ўпраўлення адукацыі.***

Як патлумачыла галоўны інспектар аддзела выхаваўчай работы **Тамара Ніканораўна Карніцкая**, сёння існуюць самыя разнастайныя формы харчавання – шведскія сталы, папярэдні заказ страў, шматпарцыённы водпуск першых страў і салатаў.

На харчаванне вучняў ад 6 да 11 гадоў рашэннем Гомельскага аблвыканкама выдзяляецца штодзённа з 1 красавіка 1720 рублёў, ад 11 да 18 гадоў – 1855 рублёў. Гэта без уліку гандлёвых надбавак. Дадзенае рашэнне датычыцца школьнікаў, якія пражываюць у зоне з узроўнем радыеактыўнага забруджвання ад 1 і вышэй кюры.

Сярод устаноў, дзе вельмі сур'ёзна ставяцца да харчавання вучняў, – Добрушская гімназія, Партызанская школа Хойніцкага раёна, сярэдняя школа № 2 Чачэрска, Брылёўская школа Гомельскага раёна.

46 тысяч з паловай дзяцей пражываюць у чыстай зоне. На іх выдзяляецца датацыя ў памеры 4 працэнтаў мінімальнай зарплаты. Але ў шэрагу гаспадарак Кастрычніцкага раёна пайшлі насустрач вучням – тут бясплатна выдзяляюцца мясныя прадукты 3 разы ў тыдзень.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Рэформа школы

## Пазбаўляемся дрэнных адзнак і другагодніцтва

***Да пачатку гэтага навучальнага года ў школах Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці выкарыстоўвалася традыцыйная, прывычная для нас 5-бальная сістэма. Але час паказаў, што яна сябе вычарпала і не адпавядае сённяшняму дню па цэламу раду прычын. І самае галоўнае, двойка заўсёды адмоўна ўплывала на другагодніцтва. Гэтая адзнака нярэдка прыводзіць да стрэсу, прыніжае годнасць, з'яўляецца "бізуном" для тых дзяцей, якія па сваіх пазнавальных здольнасцях і асаблівасцях не могуць атрымаць тройку.***

Таму мы станоўча аднесліся да эксперыментальнага даследавання дыдактычных асноў і метадычных асаблівасцей пабудовы інтэгральнай дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў агульнаадукацыйных школ. Гэтая ідэя была таксама добра пададдзена Магілёўскім інстытутам павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі ў ходзе семінара і кансультацый. (Зазначым, што ўсё новае і пачынаецца з сістэмы павышэння кваліфікацыі.)

Ініцыятарам правядзення эксперыментальнага даследавання на базе Мазолаўскай сярэдняй школы былі метадысты аддзела адукацыі. У гэтай школе раёна, як ні ў якой іншай, востра стаіць праблема другагодніцтва: у тандэме "настаўнік – вучань" вялікая адказнасць ускладалася на настаўніка, педагагічны калектыў школы не пагаджаўся са звыклай 5-бальнай сістэмай, многія настаўнікі (зразумела, не ў класных журналах) выкарыстоўвалі "+" і "–", а на III ступені навучання – лекцыйна-семінарска-заліковую сістэму арганізацыі навучальнага працэсу.

Вартасці 10-бальнай сістэмы ацэнкі для педкалектыву былі відавочныя. І галоўнае – яна дазваляе станоўча ацэньваць вучэбную дзейнасць школьніка самага нізкага ўзроўню. Мэты і прынцыпы новай сістэмы гавораць пра тое, што яе выкарыстанне прыводзіць кантрольна-ацэначную сістэму дзейнасці ў адпаведнасць з асобасна арыентаваным навучаннем, дазваляе павысіць аб'ектыўнасць ацэнкі і якасць вучэбна-пазнавальнай дзейнасці, забяспечвае сацыяльную абароненасць і справядлівасць ацэнкі вынікаў вучэбнай дзейнасці вучняў.

У сувязі з гэтым на аснове рэкамендацый абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі ў адпаведнасці з інструкцыйна-метадычнымі матэрыяламі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і НІА тры гады назад у раёне была падрыхтавана праграма эксперыментальнага даследавання дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў, а таксама план рэалізацыі і мерапрыемствы па яе ўкараненню на базе Мазолаўскай сярэдняй школы. Вынікі эксперыменту абмяркоўваліся на педагагічнай нарадзе школы, на пасяджэнні метадычнага кабінета аддзела адукацыі, заслухоўваліся на раённых метадычных аб'яднаннях, падрабязныя справаздачы аб папярэдніх выніках прадстаўляліся ў інавацыйны аддзел абласнога інстытута настаўнікаў. Педагогі дзяліліся сваімі напрацоўкамі на жнівеньскіх секцыях, кіраўнікі прадстаўлялі візітную картку школы па выніках апрабацыі на секцыі кіраўнікоў школ.

**Больш чым у 78 працэнтаў педагогаў, вучняў і іх бацькоў 10-бальная сістэма атрымала прызнанне і падтрымку.**

Больш чым у 78 працэнтаў педагогаў, вучняў і іх бацькоў 10-бальная сістэма атрымала прызнанне і падтрымку. Зыходзячы з гэтых вынікаў, на пачатак навучальнага года ў дванаццаці школах раёна сфарміравалася разуменне неабходнасці ўкаранення новай сістэмы. Гэтае пытанне таксама абмяркоўвалася на педагагічных нарадах, бацькоўскіх сходах, куды запрашаліся і вучні, дзе ўсе былі азнаёмлены з асноўнымі яе прынцыпамі і падыходамі, і ўхвалілі рашэнне пачаць апрабацыю.

У выніку з пачатку 2001–2002 навучальнага года ў дванаццаці школах раёна была ўведзена 10-бальная сістэма ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў. А ў сакавіку на базе Мазолаўскай і Забалоцкай сярэдніх школ быў праведзены абласны семінар "Апрабацыя дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў сярэдняй агульнаадукацыйнай школы" для кіраўнікоў школ, у якіх праводзіцца эксперыментальнае даследаванне новай сістэмы. Неабходнасць яго правядзення прадыктавана нашым жыццём.

Удзельнікам семінару была прадастаўлена магчымасць наведаць адкрытыя ўрокі ў Мазолаўскай школе ва ўсіх класах II і III ступеняў навучання і па ўсіх прадметах, агульная мэта якіх – апрабацыя 10-бальнай сістэмы на практыцы. Напрыканцы адбыўся круглы стол.

Намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце І.Г.Падольхава падрабязна расказала пра тое, з чаго даводзілася пачынаць, як паступова мяняліся звычкі і псіхалогія настаўнікаў, вучняў і бацькоў. Для ўдзельнікаў семінара стала відавочным, што выкарыстанне новай сістэмы забяспечвае дыферэнцыраваны падыход да ацэнкі вучэбнай дзейнасці школьнікаў, павышае зацікаўленасць у атрыманні лепшых вынікаў, фарміруе звычку самаацэнкі ўласнай працы, дазваляе больш дакладна і аб'ектыўна ацэньваць вучэбную дзейнасць, назіраць дынаміку паспяховасці, станоўча ўплывае на ўзаемадзеянне школы з бацькамі. Яна дазваляе пазбавіцца ад нездавальняючых адзнак і другагодніцтва. Дзесяцібальная сістэма таксама развівае прафесійныя і метадычныя якасці настаўнікаў. Яе выкарыстанне патрабуе дыягностыка-тэхналагічнага падыходу да кіравання вучэбна-выхаваўчым працэсам у школе, удасканалення сістэмы павышэння педагагічных работнікаў.

**Сёння відавочна, што трэба ўдасканальваць сістэму ацэнкі. Найлепшы варыянт - 10-бальная.**

Большасць педагогаў школ, дзе ўкараняецца гэтая сістэма, па-іншаму пачала ставіцца да ўрока як асноўнай формы вучэбна-выхаваўчага працэсу, шырэй выкарыстоўваць у практыцы сучасныя тэхналогіі і методыкі навучання.

На семінары таксама абмяркоўвалася і праблема 9 і 10 балаў. Сёння адзнака "10 балаў" згодна з прапанаванымі крытэрыямі ацэнкі амаль недасягальная для вучняў. Вось што гавораць на гэты конт выдатнікі: атрымаць добрую адзнаку стала значна цяжэй, чым раней, трэба шмат працаваць самастойна над дадатковай літаратурай, падручніка зусім недастаткова, патрэбна асаблівая цікавасць да прадмета.

Вырашэнне гэтай праблемы, як было адзначана, вымагае выкарыстання методык актыўнага навучання і многага іншага, да чаго яшчэ не гатовы ні сучасны вучань, ні сучасны настаўнік. Бо цэнтр вучэбнага працэсу сёння – вучань, а не настаўнік і тым больш школьны прадмет. Сутнасць такога вучэбнага працэсу заключаецца ў стымуляванні і арганізацыі актыўнай вучэбна-пазнавальнай дзейнасці вучняў па авалодванню ведаў, развіццю здольнасцей, фарміраванню светапогляду.

Другі дзень работы семінара быў прысвечаны знаёмству з Забалоцкай сярэдняй школай, якая працуе над вырашэннем гэтай праблемы.

Падвядзенне вынікаў работы семінара, меркаванні яго ўдзельнікаў паказалі, што 5-бальная сістэма ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў – гэта ўчарашні дзень, будучыня – за 10-бальнай сістэмай.

Вось некаторыя выказванні ўдзельнікаў:

"Як быццам мы і падрыхтаваны да ўкаранення новай сістэмы, аднак семінар паказаў, што гэта глыба, якую трэба паступова зрушваць. Мы павінны будзем настройваць на сур'ёзную работу свае калектывы і працаваць творча".

"З кожным семінарам застаецца менш незразумелага. 10-бальная сістэма ставіць перад намі шмат пытанняў, і трэба іх вырашаць. Лічу, што два дні мы працавалі плённа. Сістэма дае шмат новых адкрыццяў, магчымасцей. Нас яшчэ больш зацікавілі гэтай праблемай, падштурхнулі да пошуку".

"Сёння відавочна, што трэба ўдасканальваць сістэму ацэнкі. Найлепшы варыянт – 10-бальная. Яе распрацоўшчыкі павінны ўлічыць вынікі эксперыментальнага даследавання, зрабіць пэўныя ўдакладненні".

"Трэба пачынаць масавае ўкараненне новай сістэмы ў школах. Што да пачатковай школы, то існуе такое меркаванне, што ў падрыхтоўчым і першым класах трэба адмовіцца ад адзнак, а пачынаць выкарыстанне 10-бальнай сістэмы з другога класа. Гэта забяспечыць мяккі, паступовы пераход да яе і да шматпрадметнага навучання ў сярэднім звяне. Лічу, што пачатковая школа павінна ўвогуле працаваць без адзнак".

Усё новае пачынаецца з сістэмы павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі. Аднак апошнім часам гэтая сістэма не зусім спрацоўвае. Педагогі адчуваюць цяжкасці ў своечасовым праходжанні курсавой перападрыхтоўкі, не выплачваюцца камандзіровачныя расходы на семінары і іншыя мерапрыемствы. Пара сур'ёзна падумаць над пытаннямі фінансавання сістэмы павышэння кваліфікацыі.

**Святлана КІСЯЛЁВА,**
**загадчыца вучэбна-метадычнага кабінета Мсціслаўскага раённага аддзела адукацыі.**



Шаснаццаты год займаецца з дзецьмі выхавацель-псіхолаг Валянціна Аляксееўна Хвалюк. Цяпер яна працуе ў Брэсцкім дзіцячым сацыяльным прытулку, аддаючы ўвесь асноўны час менавіта індывідуальнай рабоце з дзецьмі, якія апынуліся ў цяжкай сітуацыі і перажылі стрэс. Чатырохгадовы Герман Бяляўскі быў падкінуты ў Брэсцкую дзіцячую бальніцу суседзямі, калі яго маці асудзілі.

Валянціна Аляксееўна займаецца з ім з задавальненнем. Бачыць вынік сваёй працы – хлопчык здаровы, да яго вярнуліся усмешка і спакой.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

# Педагог незвычайнай спецыфікі. І невычэрпнай міласэрнасці

Чатырнаццаты год працуе Людміла Лысенка ў дапаможнай школе № 26 Віцебска, дзе вучыцца больш як 200 дзяцей з сур'ёзнымі псіхічнымі праблемамі. Скончыла фізмат, працавала па спецыяльнасці. Але пасля працяглага дэкрэтнага адпачынку (двое дзяцей, амаль аднагодкі) засталася без справы. І нечакана з'явілася новая прафесія: у 26-й школе Віцебска прапанавалі месца выхавальніка. Спачатку крыху бянтэжыла спецыфіка працы. Паступова пачало падабацца. Больш за тое – Людміла Сяргееўна зразумела, што менавіта тут яна прынясе найбольшую карысць, зможа дапамагчы кожнаму дзіцяці ў яго няпростым лёсе. Гэтае рашэнне падштурхнула да новага кроку – заканчэння дэфекталагічнага факультэта БДУ.

Дэфектолаг-лагапед Л.С.Лысенка ў гэтым навучальным годзе вядзе падрыхтоўчы клас. Яна ўжо зрабіла два выпускі. Былыя вучні часцяком прыбягаюць да сваёй настаўніцы, сумуючы па ёй. Гледзячы на іх, бацькі шасцігодак шчыра радуюцца: значыць, і нашы справяцца з бядой.

Нялёгка такім дзецям адаптавацца ў калектыве, даверыцца незнаёмаму чалавеку. Некаторыя не ўмеюць усміхацца, агрэсіўна сябе паводзяць. Пачатковы этап – самы адказны: дыягностыка, элементарнае развіццё і выхаванне, падрыхтоўка да будучай вучобы. У Людмілы Сяргееўны – толькі шэсць вучняў. Аднак з улікам цеснай сувязі і пастаяннай працы з сем'ямі, уключаючы бабуль і дзядуль – лічы, за дваццаць. На першым месцы не франтальная работа з класам, а глыбока індывідуальная, карпатлівая і цярплівая.

Не толькі любоўю да дзяцей, але і невычэрпнай міласэрнасцю павінен валодаць настаўнік спецыяльнай школы. Іншы раз даводзіцца траціць уласныя зберажэнні на чужых дзяцей, якія па волі лёсу сталі тваімі. Пакупка алоўкаў, ручак, сшыткаў – справа звычайная. Часам неабходна дапамагчы прадуктамі, адзеннем.

"Калі бачыш, што дзіця жыве ў нястачы, хіба адвернешся?" – кажа Людміла Сяргееўна. Настаўніца абавязкова дапаможа сваім вучням (няхай нават былым), калі ў іх дома здарыцца няшчасце. Прыедзе, падтрымае і словам, і справай. Спатрэбілася былой выхаванцы прагулачная каляска для немаўляці – аддала сваю. Трапіла ўчарашняя вучаніца з траўмай у бальніцу – Людміла Сяргееўна апынулася там раней, чым бацькі. Напэўна, таму не змаўкае тэлефон у яе кватэры: звоняць дзеці і іх бацькі – у будні і ў святы, з радасцю і з бядой. Звоняць як другой маме. Вераць: яны ёй патрэбны, яны – не чужыя.

Настаўніца вышэйшай катэгорыі Людміла Лысенка займаецца як непасрэдна выкладаннем, так і тэарэтызацыяй уласнага вопыту. Яе навуковыя артыкулы, удалыя распрацоўкі ўрокаў публікуюцца ў спецыяльнай літаратуры. Метадычныя здольнасці настаўніцы дапамагаюць і працы калег. Яе педагагічны вопыт пераймае моладзь.

**Святлана ЛАВЕЙКІНА.**

Семінары

# Адкрыць дзверы надзеі

***Жлобінскі цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі не можа пахваліцца ні прасторнымі памяшканнямі, ні вялікім штатам спецыялістаў.***

Але менавіта тут, у дзіцячым садзе №11, дзе цэнтр арандуе плошчу, прайшоў абласны семінар, на якім ішла гаворка пра ўсебаковую дапамогу дзецям з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. На яго з'ехаліся кіраўнікі цэнтраў карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі з васьмі гарадоў Гомельшчыны, а работу вёў першы намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама Валерый Клік.

Выбар на Жлобінскім цэнтры быў спынены невыпадкова. За чатыры гады работы яго супрацоўнікам назапашаны каштоўны практычны вопыт. Пры цэнтры дзейнічае адзіны ў вобласці (!) вучэбны клас для дзяцей з цяжкімі парушэннямі. У гэтым незвычайным класе восем вучняў ад 14 да 17 гадоў. У кожнага – больш чым сур'ёзныя дыягназы: хвароба Даўна, ДЦП, сутаргавы сіндром. Разам з тым супрацоўнікі цэнтра дабіваюцца прыкметных поспехаў, даючы выхаванцам веды, неабходныя ў штодзённым жыцці. Тут арганізаваны нават... гурток мяккай цацкі "Пушысцік", дзе вучні асвойваюць папулярнае ў Жлобіне рамяство.

Цікавы факт: удзельнікі семінара, якія прысутнічалі на ўроку ў гэтым класе, нават засумняваліся ўтым, што за школьнымі сталамі – цяжка хворыя дзеці, у прыватнасці, з парушэннямі нервовай сістэмы. Дырэктар цэнтра Святлана Мікалаеўна Пытлева дасягненні незвычайных вучняў тлумачыць проста: за кожным, нават самым маленькім поспехам – велізарная праца настаўніка, выхавальніка і яго памочніка, дэфектолага, інструктара лячэбнай фізкультуры. І, вядома, – беражлівае стаўленне да ўнутранага свету хворага дзіцяці, уменне захапіць і зацікавіць. Без гэтай "драбніцы" працаваць з такім дзецьмі проста немагчыма.

У цэлым жа цэнтр дзейнічае па многіх напрамках, аказвае дыягнастычную, метадычную, кансультацыйную і рэабілітацыйную дапамогу дзецям, як тут прынята гаварыць, з "асаблівасцямі развіцця". У спектр яго ўвагі ўваходзяць адкрытыя ў шэрагу школ горада спецыяльныя і інтэграваныя класы, карэкцыйна-педагагічныя пункты, спецыяльныя групы ў садках.

З 15 дзецьмі настаўнік-дэфектолаг і інструктар ЛФК займаюцца індывідуальна ў іх дома, яшчэ 21 дзіця атрымлівае комплексную дапамогу непасрэдна ў цэнтры. Кожны год спецыялісты цэнтра даюць звыш 500 кансультацый бацькам і педагогам, сумесна з навучальнымі ўстановамі арганізуюць практычныя семінары. Для бацькоў тут пачаў дзейнічаць клуб "Вялікая педагогіка маленькай краіны", які стварае спрыяльны эмацыянальны клімат у сем'ях, дзе выхоўваюцца дзеці з асаблівасцямі.

Супрацоўнікамі цэнтра сабраны банк даных пра жлабінчан ва ўзросце да 18 гадоў, якія маюць тыя або іншыя псіхафізічныя праблемы. Летась налічваліся 1203 такія дзіцяці, 122 з якіх – інваліды. У гэтым годзе лічбы, напэўна, будуць яшчэ больш несуцяшальнымі. Невыпадкова ў сваім нядаўнім выступленні ў "Настаўніцкай газеце" Валерый Кулік ацаніў сітуацыю з павелічэннем колькасці дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця на Гомельшчыне як трывожную.

"У кожным асобным выпадку важна як мага раней разгледзець праблему і пачаць лячэнне", – мяркуюць у цэнтры, і там робіцца ўсё магчымае для таго, каб "дзеці пачалі атрымліваць дапамогу літаральна з першых жа дзён жыцця. Сёння ў невялікі штат гэтага калектыву ўваходзяць дзіцячы неўрапатолаг і псіханеўролаг, якія разам з урачом-неанатолагам радзільнага дома і ўчастковымі педыятрамі выяўляюць малых з "групы рызыкі".

Удзельнікі семінара змаглі самі пабачыць, як дапамагаюць самым маленькім выхаванцам цэнтра і іх бацькам. На адкрытыя заняткі была запрошана мама з трохмесячнай Дыянай. З дзяўчынкай працуюць урач-псіханеўролаг, дэфектолаг і масажыст. Яны ж на рэгулярных кансультацыях навучаюць яе маму асноўным элементам лячэбных заняткаў. Дыяне і іншым немаўлятам дапамагаюць пераадолець хваробу па адаптаванай аўстралійскай методыцы "Маленькія прыступкі", набыць якую цэнтру дапамагла гарадская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам.

Як няцяжка здагадацца, матэрыяльныя выгоды ў выглядзе вучэбных камп'ютэрных праграм, спартыўных трэнажораў і іншага лячэбнага абсталявання зусім не сыплюцца на цэнтр, нібы з рога дастатку. І колькіх намаганняў каштавала набыццё таго ж слыхамаўленчага трэнажора СРТ-10 або старэнькага камп'ютэра – вядома толькі самім супрацоўнікам. Ды і гэтай базы на сённяшні дзень відавочна недастаткова: няма вельмі неабходных установе такога профілю размнажальнай тэхнікі і ўласнага аўтатранспарту, адзіны камп'ютэр перагружаны. У штаце не хапае дэфектолагаў, няма сацыяльнага педагога. Усе гэтыя цяжкасці, на жаль, не дазваляюць цэнтру, пра што сказала ў сваім дакладзе яго дырэктар, аказваць комплексную дапамогу ўсім, каму яна патрэбная. Большасць дзяцей даводзіцца проста "суправаджаць", кансультуючы іх бацькоў.

Зрэшты, у ходзе семінара прагучала і добрая навіна. Падобна на тое, што ў хуткім часе вырашыцца галоўная праблема цэнтра – "бяздомнасць". Загадчыца раённага аддзела адукацыі Л.І.Артамонава, якая ўдзельнічала ў гэтай сустрэчы, цвёрда паабяцала перадаць цэнтру будынак суседняга дзіцячага сада, які цяпер знаходзіцца на рамонце.

Для супрацоўнікаў цэнтра будучае наваселле азначае магчымасць дапамагчы большай колькасці дзяцей, якія трапілі ў бяду.

**Іна ЯСІНСКАЯ.**

Сацыялагічныя даследаванні

# Інтэграваны клас: ці камфортна ў ім вучням?

Ці добра дзіцяці ў школе? Гэтае пытанне задаюць сабе ўсе бацькі, якія любяць і паважаюць свайго сына альбо сваю дачку. Праблема адаптацыі дзіцяці да школы заўсёды хвалявала дарослых.

У цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі Кастрычніцкага раёна Магілёва праводзілася даследаванне, ці камфортна дзецям з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ў інтэграваных класах.

Да апошняга часу такія дзеці вучыліся ў спецыяльных школах-інтэрнатах. Увесь час адчуваўся дэфіцыт узаемаадносін іх з аднагодкамі. Бацькі вымушаныя былі затрачваць шмат часу, каб дабірацца да месца навучання дзіцяці. Нараджэнне малога з парушэннямі ў развіцці, яго навучанне і выхаванне станавілася цяжарам не толькі ў матэрыяльным, фізічным, але і ў маральным плане.

Цяпер у бацькоў з'явіўся выбар: можна аддаць дзіця ў школу па месцы жыхарства, можна выбраць школу для навучання ў спецкласе альбо каб дзіця вучылася ў спецыяльнай школе. Зразумела, большасць бацькоў выбірае школы побач з домам. З'явілася больш часу для сябе, для сям'і.

Ці добра дзецям з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ў інтэграваных класах?

Асноўнымі аспектамі сацыяльна-педагагічнага даследавання сталі:

– узаемаадносіны ў класным соцыуме (сацыяметрычнае даследаванне інтэграванага класа);

– матывацыя навучальнай дзейнасці дзіцяці з асаблівасцямі;

– асаблівасці эмацыянальнага ўспрымання школьнага мікраклімату дзецьмі з парушэннямі.

Аб'ектамі даследавання былі вучні з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця інтэграваных класаў Кастрычніцкага раёна Магілёва. Такіх класаў у раёне 33. У іх – больш як 50 дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Праблемы навучання і выхавання такіх дзяцей, вынікі сацыяльнай інтэграцыі ў школьны калектыў патрабуюць дакладнага даследавання для таго, каб у далейшым наладзіць працэс адаптацыі да школы, павысіць узровень сацыяльнай паўнацэннасці дзіцяці ва ўсіх яе праявах.

У выніку даследавання выяўлена, што спрыяльныя ўзаемаадносіны фарміруюцца ўжо на трэці год існавання калектыву інтэграванага класа: лідзіруючае становішча займаюць 15 працэнтаў дзяцей з асаблівасцямі; устойлівае становішча ў структуры ўзаемін – маюць 55 працэнтаў вучняў дадзенай катэгорыі. На першым годзе існавання калектыву толькі 50 працэнтаў дзяцей мелі ўстойлівае становішча ў структуры ўзаемін. На другім годзе гэтая лічба складала 70 працэнтаў, а лідэраў сярод дзяцей з парушэннямі не назіралася. Такім чынам, прызнанне равеснікамі большай паловы дзяцей з асаблівасцямі адбываецца ўжо на другі, трэці год сумеснага навучання.

Даследаванне матывацыі вучэбнай дзейнасці дзяцей з асаблівасцямі паказала, што 34 працэнты вызначаюцца высокай школьнай матывацыяй і вучэбнай актыўнасцю. Астатнія 66 працэнтаў паказалі станоўчыя адносіны да школы, але школа больш прыцягвае іх пазашкольнымі мерапрыемствамі ( у асноўным гэта ўзаеміны з равеснікамі, удзел у агульнашкольных, класных мерапрыемствах, працоўныя даручэнні, справы). Нізкая школьная матывацыя альбо дэзадаптацыя не дыягнаставана ні ў аднаго з дзяцей дадзенай катэгорыі.

Хацелася б адзначыць станоўчы вопыт работы педагагічнага калектыву школ № 37 і 43 Магілёва, у якіх дзеці з парушэннямі паказалі найлепшыя вынікі тэсціравання: адзначылі задаволенасць узаемінамі, камфортнасць знаходжання ў школе. У рабоце з іх бацькамі, членамі сям'і назіраецца сістэматычнасць, правільнае педагагічнае суправаджэнне.

На жаль, не ва ўсіх школах псіхолагі, сацыяльныя педагогі, дэфектолагі вядуць мэтанакіраваную работу, каб забяспечыць паспяховую інтэграцыю такіх дзяцей. Толькі некаторыя школы маюць планы карэкцыйнай работы, сістэматычна працуюць з дзецьмі з парушэннямі, іх бацькамі, аднакласнікамі.

Для паспяховай інтэграцыі неабходна работа з сям'ёй. Сярод сем'яў, у якіх выхоўваюцца дзеці з асаблівасцямі, праблемных – 24 працэнты, няпоўных – 36 працэнтаў, мнагадзетных – 11 працэнтаў, малазабяспечаных – 17 працэнтаў. Добры вынік даюць пастаянныя сустрэчы з бацькамі, тлумачэнне, узаеміны. Часта бацькі не ведаюць, як дапамагчы дзіцяці, у якой літаратуры знайсці адказы па навучанню, развіццю праблемнага дзіцяці, як дапамагчы дзіцяці ўліцца ў школьны калектыў.

Такім чынам, хацелася б парэкамендаваць педагагічным калектывам школ наладжваць як мага больш кантактаў з равеснікамі, школьным калектывам, праводзіць больш спецыялізаваных мерапрыемстваў. Неабходна і саміх школьнікаў вучыць правілам узаемін. Справа тут не ў шкадаванні і спачуванні, з якімі такія дзеці штодзень сустракаюцца на вуліцы. Важная пераарыентацыя мыслення ўсіх тых, хто акружае такога чалавека, на ўспрыманне яго як роўнага, як асобу. І вопыт пацвярджае, што дзеці гатовыя да гэтага.

**Галіна ЛЯПЦЕЕВА,**
**сацыяльны педагог**
**Цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання**
**і рэабілітацыі**
**Кастрычніцкага раёна**
**Магілёва.**

# Настрой карціны

## Навучыцца вызначаць яго могуць і дзеці з асаблівасцямі развіцця

***Сёння можна ўжо гаварыць пра тое, што інтэграванае навучанне дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця заняло паўнапраўнае месца ў масавых школах краіны. Што датычыцца Кастрычніцкага раёна Магілёва, дык у кожнай агульнаадукацыйнай школе ёсць інтэграваныя класы першай або другой мадэлі, вызначаны таксама 4 масавыя школы, у якіх адкрыюцца спецкласы. Таксама рыхтуюцца базы для адкрыцця інтэграваных класаў для навучання дзяцей з рэдкімі парушэннямі.***

***У гэтых базавых школах працуюць карэкцыйна-педагагічныя пункты, у якіх ёсць спецыялісты-дэфектолагі: сурдапедагог, тыфлапедагог, алігафрэнапедагог, псіхолаг.***

Урок у сістэме інтэграванага навучання павінен вызначацца цэласнасцю, узаемазвязанасцю частак, адзінай логікай разгортвання сумеснай дзейнасці настаўніка і вучняў, а таксама павінен быць лагічнай адзінкай тэмы, раздзела, курса. Гэты ўрок мае сваю спецыфіку, якая вызначаецца тым, што ў класе інтэграванага навучання працуюць два настаўнікі: асноўны настаўнік інтэграванага класа і настаўнік-дэфектолаг.

Асноўны настаўнік класа інтэграванага навучання першай мадэлі, як правіла, праводзіць вучэбную работу з вучнямі ўсяго класа па такіх прадметах, як "Фізічнае выхаванне", "Музыка", "Выяўленчае мастацтва і мастацкая праца", "Тэхналогія" і г.д.

Большасць дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця прыходзіць у школу, маючы фармальныя матывы да навучання, вызначаецца безыніцыятыўнасцю, інтэлектуальнай пасіўнасцю. Перад настаўнікам паўстае задача фарміравання змястоўнай вучэбнай матывацыі. Таму неабходным тут з'яўляецца фарміраванне такіх важных кампанентаў вучэбнай дзейнасці, як мэтазгоднасць (практыкаванне ва ўменні вызначыць мэту і ўсвядоміць яе) і пазнаваўчы матыў, які ўзнікае і замацоўваецца шляхам практыкаванняў.

Патрабаванні, што прад'яўляюцца да вучняў інтэграваных класаў, павінны адпавядаць узроўню іх развіцця, але не перавышаць і не заніжаць іх магчымасці. Неадпаведнасць вучэбнай нагрузкі індывідуальным магчымасцям школьнікаў можа выклікаць, з аднаго боку, пачуццё няўпэўненасці ў сабе, боязь памыліцца, безыніцыятыўнасць і, з другога боку, неабгрунтаванае адчуванне лёгкасці навучання, што прыводзіць да несфарміраванасці валявых намаганняў, няўмення пераадольваць цяжкасці.

Неабходна спланаваць работу такім чынам, каб можна было рэалізаваць патрабаванні агульнаадукацыйнай праграмы (для дзяцей, якія навучаюцца па праграме агульнаадукацыйнай школы) і спецыяльнай (для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця) па прадметах "Музыка", "Фізічнае выхаванне", "Тэхналогія", "Выяўленчае мастацтва і мастацкая праца", паколькі іх выкладае адзін настаўнік – асноўны.

Такім чынам, асноўны настаўнік павінен добра ведаць вучэбныя планы і праграмы агульнаадукацыйнай і спецыяльнай школ, каб нейкім чынам зніверліраваць тэмп праходжання вучэбнага плана і аб'ём зместу праграм агульнаадукацыйнай і спецыяльнай школ. А пры немагчымасці зрабіць гэта – працаваць, як у малакамплектнай школе.

***

Урок па выяўленчаму мастацтву і мастацкай працы з выкарыстаннем калектыўнага спосабу дзейнасці праводзіцца ў падрыхтоўчым класе інтэграванага навучання (14 чалавек навучаецца па агульнаадукацыйнай праграме, 6 чалавек па праграме для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы).

Тэма – зімовая фантазія. Накіравана праца на тое, каб развіваць уяўленне вучняў пра адценні колеру. Задача школьнікаў – паспрабаваць сябе ў каларыстычным аналізе мастацкіх твораў, адлюстраванні сюжэта. Вучні павінны з дапамогай фарбаў перадаць настрой карціны. Справа настаўніка – навучыць карыстацца лініяй, якая аддзяляе бачную частку зямлі ад неба, не пакідаць прабелаў паміж фонам і фігурамі, выдзяляць галоўны аб'ект у малюнку.

Педагог працуе над развіццём мовы вучняў, пачуцця ўзаемакантролю, узаемадапамогі, фарміруе навыкі калектыўнай працы. На ўроку выкарыстоўваюцца рэпрадукцыі зімовых пейзажаў "Адліга" Ф.Васільева, "Сакавіцкае сонца" К.Юона, "Зіма" А.Куінджы, слайды, дзіцячыя малюнкі, ілюстрацыі дамоў, дрэў, "драцяныя чалавечкі" ў розных позах, папера, гуаш, магнітафон, трафарэты.

***

Гучыць музыка П.Чайкоўскага з альбома "Поры года". Настаўнік гаворыць: "Дзеці, вось і прыйшла да нас прыгажуня-зіма ў сваёй пушыстай снежнай вопратцы. Усю прыроду яна ўпрыгожыла па-новаму, па-свойму, а дзецям прынесла новыя гульні і забавы. Вось як вы, дзеці, намалявалі зіму на мінулых уроках (выстава малюнкаў).

Сёння мы пачнем пісаць кампазіцыю на тэму "Зімовая фантазія". Вы будзеце працаваць як мастакі-жывапісцы. Давайце ўспомнім, якія фарбы былі на палітры мастачкі-восені (жоўтыя, чырвоныя, рыжыя)".

Затым – пальчыкавая гімнастыка. Педагог прапануе дзецям намаляваць свой настрой у пачатку ўрока. Працуюць дзеці па групах (дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця – асобна).

"А ў зімы свая палітра, – працягвае настаўнік.– Яна не такая яркая, як у залатой восені, але таксама вельмі прыгожая: светлая, з мноствам пяшчотных адценняў. Мастакі падгледзелі і адлюстравалі на сваіх карцінах колеры і адценні зімы".

Кожная група атрымлівае карціну на выбар (Ф.Васільева "Адліга", "Сакавіцкае сонца" Юона) і рыхтуецца адказваць на пытанні.

Далей – праверка па слайдах. Выключана святло. Гучыць ціхая музыка. Дзеці параўноўваюць карціны. Прадстаўнікі ад груп адказваюць на пытанні настаўніка:

– Раскажыце аб карціне, яе настроі (Ф.Васільеў, "Адліга") — (Пахмурны, сумны).

– А на другой карціне які настрой? ("Сакавіцкае сонца" Юона) — (радасны, вясёлы).

На гэтыя пытанні адказваюць вучні з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

– Паглядзім, як мастак выкарыстаў колер, каб адлюстраваць настрой у карціне. Іра, падыдзі да экрана і раскажы, якія адценні колеру ты бачыш на карціне "Адліга" (на гэтае пытанне адказваюць дзеці, якія займаюцца па агульнаадукацыйнай праграме, паколькі дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, згодна з праграмай, павінны ведаць толькі асноўныя колеры).

– Неба цёмна-шэрае...

– Усюды аднолькавае?

– Не, тут цямней, а тут святлей, крыху жаўтаватае. Снег шэры, тут шмат адценняў.

– Пакажы, у якім месцы, на тваю думку, мастак дадаў крыху сіняй фарбы і светла-шэрай... Цяпер паглядзім другую карціну. Гэта ўжо сакавік, сонейка свеціць ярка, весела. Якімі фарбамі Юон напісаў неба? (Блакітнае, крыху зеленаватае)... У цябе атрымаецца вельмі цёмнае неба. Якую фарбу трэба дадаць, каб неба было светлым? (Белую)... Нядаўна мы з вамі хадзілі на экскурсію ў лес, разглядалі неба, зямлю. Што мы даведаліся пра неба? Дзе неба святлейшае: унізе альбо наверсе? Калі неба не закрыта хмарамі, яно заўсёды святлейшае каля зямлі, а ў вышыні цямнейшае, цёмна-блакітнае альбо сіняе... Зараз вы напішаце спачатку неба і снег. Падумайце, якую зіму вы будзеце паказваць: сонечную альбо пахмурную. Для неба пакіньце больш месца, чым для снегу..."

За кожным дзіцем з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця замацаваны інструктар (моцны вучань). Мэта інструктара – выканаць заданне і дапамагчы таварышу, пракантраляваць, ці правільную фарбу ён выбраў. Перад дзецьмі з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ляжаць ілюстрацыі, палітра. Настаўнік пастаянна кантралюе і дапамагае.

***

Пры праверцы неабходна адзначыць і пахваліць работы дзяцей з асаблівасцямі: "Падыдзі да дошкі і раскажы, як табе ўдалося так прыгожа напісаць колер снегу, якія колеры ты змешвала".

Наступны этап – рэлаксацыя. Выключана святло, гучыць ціхая музыка. Потым настаўнік прапаноўвае ўспомніць вершы, прыказкі, вершы пра зіму. Кожная група выбірае заданне.

Для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця заданне – адгадванне загадак з рыфмаванай канцоўкай. Гэтыя дзеці таксама могуць расказаць чатырохрадкоўе, вывучанае загадзя з дапамогай лагапеда на карэкцыйных занятках. Яны могуць працаваць як у асобнай групе, так і ў групах з астатнімі дзецьмі. Затым – абмеркаванне ў групах.

Настаўнік: "Зараз наш пустынны пейзаж ажыве, на ім з'явяцца дзеці ў шубах, куртках, а што яны будуць рабіць, вы прыдумаеце самі. З'явяцца дрэвы, кусты, усё, што вы захочаце паказаць". Перад дзецьмі з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ляжаць ілюстрацыі дамоў рознага тыпу, дрэў, трафарэты. З дапамогай настаўніка адзначаецца месца, дзе будзе размешчаны "галоўны аб'ект" – дом, потым вызначаюцца месцы для астатніх прадметаў. Настаўнік паказвае апорныя пункты, па якіх дзіця малюе прадмет (дом, дрэва). Для гэтай катэгорыі дзяцей дастаткова намаляваць дом і (альбо) дрэва. Пры жаданні яны могуць намаляваць чалавека, выкарыстоўваючы трафарэт, "драцяных чалавечкаў". З кожным дзіцем працуе інструктар, мэта якога – кантроль і дапамога.

Наступны этап – рэфлексія. Педагог цікавіцца, ці захаваўся ў вучняў добры настрой, ці спадабаўся ўрок, што спадабалася больш за ўсё, што выклікала цяжкасці. Затым настаўнік прапануе дзецям намаляваць свой настрой.

***

Ад асноўнага настаўніка залежыць многае ў рэалізацыі агульнаадукацыйных патрэбнасцей дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Ён абавязаны многія пытанні вырашаць самастойна, арыентуючыся на тое, што цэнтральная фігура ў навучанні – вучань.

Аднак, у адрозненне ад настаўніка-дэфектолага, асноўны настаўнік інтэграванага класа практычна ніякай дапамогі з боку метадычных служб школы, метадкабінета рай(гар)ана не атрымлівае. Гэта ўскладняе якаснае навучанне.

Нядрэнна было б на ўзроўні школ арганізаваць з асноўнымі настаўнікамі інтэграваных класаў пастаянную метадычную вучобу, дзе б разглядаліся пытанні навучання і выхавання дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

**Алена ПРЫХОДЗЬКА,**
**настаўнік-дэфектолаг**
**Цэнтра карэкцыйна-развіццёвага**
**навучання і рэабілітацыі**
**Кастрычніцкага раёна**
**Магілёва.**

# Внимание, конкурс!

Представьте себе: вы живете в мире и спокойствии. Дом, семья, друзья, словом, нормальная жизнь. И вдруг внезапно весь мир вокруг меняется. Ваши соседи и друзья разом становятся заклятыми врагами. По улицам грохочут танки, горят автобусы. Взрывы ракет заглушают звоны церковных колоколов. Все, что Вы знали, имели, любили, вдруг перестает существовать. Даже если вам посчастливилось выжить, вы оказываетесь - одинокие, растерянные - в чужой для себя стране. Вы стали беженцем.

*Беженец - это человек, который "в силу вполне обоснованных опасений стать жертвой преследований по признаку расы, вероисповедания, гражданства, принадлежности к определенной социальной группе или политических убеждений находится вне страны своей гражданской принадлежности и не может пользоваться защитой этой страны или не желает пользоваться такой защитой вследствие таких опасений".*

(Конвенция 1951 г. о статусе беженцев)

Беженцы - такие же люди, как и мы с вами, за одним единственным исключением: все, что они когда-то имели, потеряно. У них нет ничего. И у них никогда ничего не будет, если мы не протянем им руку помощи. Вы не можете вернуть им то, что отобрали другие. Просто отнеситесь к ним без предубеждения. Представьте на минуту, каково им, и не отворачивайтесь, а улыбнитесь. Казалось бы, такая малость. Но для беженца порой это нужнее всего.

Дорогие ребята, **Управление Верховного комиссара ООН по делам беженцев и Международное общественное объединение по изучению ООН и информационно-образовательным программам** объявляют конкурс детских работ на тему **"Размышления о правах детей-беженцев"**. Мы надеемся, что при создании своих работ вы будете опираться на свои знания о правах человека, правах ребенка и правах беженцев. Вам пригодятся и основные сведения о системе защиты прав человека и прав беженцев в рамках системы Организации Объединенных Наций.

Мы ждем от вас рассказы и рисунки на заданную тему. К участию приглашаются ученики 5-9 классов. Победителей ждут награды. По итогам конкурса будет издан сборник лучших работ.

***Требования к работам***

Для участия в конкурсе вам нужно представить:

*- рисунок на плотной бумаге формата А4 (210 х 297 мм);*

*- художественный рассказ (не более 1-й страницы формата А4 по возможности печатного текста) в прозе или стихах*

Работа может быть подана как в индивидуальном порядке, так и от отдельного класса, параллели, школы. От одного участника может быть подано не более одной работы.

К представленным работам должна прилагаться информация об участнике:

*Фамилия и имя автора работы, класс, номер и адрес школы, контактные адрес и телефон (факс, e-mail)*. Если подается коллективная работа, то указываются фамилия и имя контактного лица.

Последний срок подачи работ на конкурс — **25 мая 2002 г.**

Направляйте ваши работы **по почте** или приносите **лично** по адресу:

***220072, г. Минск, ул. Академическая, 25, к. 406. Международное общественное объединение по изучению ООН и информационно-образовательным программам***

Адрес конкурса в Интернет:

***http://www.cenunst.by.ru/children2002.shtml***

***или http://www.cenunst.bsu.by/children2002.shtml***

Вопросы вы можете задавать по телефону: ***(017)284 00 13*** или по электронной почте ***cenunst@mailru.com***

# Сябры матэматыкі - логіка і шахматы

***Школьная праграма па матэматыцы ставіць перад настаўнікам дваякую задачу. Па-першае, садзейнічаць развіццю лагічнага мыслення вучняў; па-другое, сфарміраваць у іх канкрэтныя матэматычныя навыкі. Не ўсе дзеці вытрымліваюць такую нагрузку. І ўсё ж другую задачу нельга аддзяляць ад першай. Калі хто-небудзь не засвоіў вучэбны матэрыял, дык якімі б матэматычнымі здольнасцямі ні валодаў, не зможа сачыць за ходам разважанняў. Не зразумеўшы тлумачэння настаўніка, такі вучань пачынае перажываць з-за сваёй няздатнасці і ўрэшце перастае наогул займацца матэматыкай.***

Школьнікі любяць лагічныя задачы. Адны бачаць у іх свайго роду "гімнастыку" для розуму, сродак задавальнення натуральнай для кожнага чалавека патрэбы выпрабоўваць і трэніраваць сілу ўласнага розуму. Іншых прываблівае літаратурная абалонка: фабула лагічных задач нярэдка бывае займальнай. Трэція адзначаюць іх даступнасць: часта можна пачуць, што для рашэння патрабуюцца не спецыяльныя веды, а толькі пэўны ўзровень развіцця, уменне лагічна мысліць, які набываецца і развіваецца, як і любы іншы навык, настойлівымі практыкаваннямі.

Традыцыйны сродак рашэння лагічных задач – табліца, у клеткі якой упісаны ўсемагчымыя камбінацыі элементаў разглядаемых мностваў. Табліца дазваляе не проста рашаць такія задачы, але і знаходзіць аптымальныя (мінімальныя па колькасці элементарных умоў) рашэнні. Яна дапамагае аналізаваць умовы задачы, выяўляць празмернасць, правяраць несупярэчлівасць і паўнату, а таксама магчымасць падзелу зыходнай задачы на незалежныя "падзадачы". Табліца дазваляе ўстанаўліваць падабенства на першы погляд, здавалася б, розных задач і, "апранаючы" слоўны шкілет іншымі словамі, канструяваць новыя лагічныя задачы з загадзя зададзенымі ўласцівасцямі.

## Сем маршрутаў

Кожнаму тыпу вучняў прысвойваецца асаблівы знак. Ён служыць своеасаблівым сігналам, на якому астатнія могуць без цяжкасці пазнаць тыя задачы, якія ім трэба было б рашыць.

**Тып А:** вучні, якія хочуць сябраваць з матэматыкай і жадаюць развіць сваё матэматычнае мысленне. Ім неабходна рашыць усе задачы, не падглядваючы ў адказы. Калі ёсць сумненні, на дапамогу прыходзіць настаўнік.

**Тып Б:** вучні, якія не вызначаюцца дастатковай цярплівасцю. Для самых нястрыманых рэкамендуецца некалькі бяспечных "маршрутаў". Кожны з іх (усяго сем) мае свой нумар, і маршрут з вялікім нумарам часам можа праходзіць па тых жа задачах, што і маршрут з меншым нумарам.

**Тып В:** вучні, якіх цікавяць толькі займальныя лагічныя задачы (імкнуцца рашыць як мага больш разнастайных галаваломак без якой-небудзь сістэмы). Ім даецца набор задач, для разумення і рашэння якіх не патрабуецца ніякай папярэдняй падрыхтоўкі.

**Тып Д:** прапануецца сем маршрутаў для дадатковых заняткаў:

1. Кароткі агляд метадаў рашэння двухмерных і трохмерных лагічных задач.

2. Нагляднены метад рашэння трохмерных лагічных задач з дапамогай кубічнай і крышталічнай рашотак.

3. Раскладанне лагічных задач на незалежныя падзадачы. Развіццё тэмы – сувязь з тэорыяй вызначальнікаў.

4. Што азначае выраз "Задача мае рашэнне"? Вызначэнне колькасці магчымых рашэнняў.

5. Тэарэтычная падрыхтоўка вучняў (самастойная работа).

6. Прывядзенне найбольш цікавых прыкладаў аналогіі знешне розных задач.

7. Задачы, якія звязаны з паняццем празмернасці. Уяўленне аб тэарэме адзінкавасці.

**Прыклад:** задача для вучняў, якіх цікавяць толькі займальныя лагічныя задачы.

**Задача:** Пазнаёмімся з трыма людзьмі: Аладарам, Бэлай і Балашом. Адзін з іх – аптэкар, другі – бухгалтар, трэці – аграном. Адзін жыве ў Будапешце, другі – у Бекешчабе, трэці – у Асодзе. Патрабуецца высветліць, хто дзе жыве і ў каго якая прафесія. Вядома толькі, што:

1. Балаш бывае ў Будапешце толькі наездамі і даволі рэдка, хаця ўсе яго сваякі пастаянна жывуць у сталіцы.

2. У двух з гэтых людзей назвы прафесій і гарадоў, у якіх яны жывуць, пачынаюцца з той жа літары, што і іх імёны.

3. Жонка аптэкара даводзіцца Балашу малодшай сястрой.

Рашэнне задачы зводзіцца да паслядоўнага запаўнення табліцы разважаннямі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Імя | Балаш | Бэла | Аладар |
| Прафесія | Бухгалтар | Аптэкар | Аграном |
| Горад, у якім жыве чалавек | Бекешчаба | Будапешт | Асод |

I ступень разважання
II ступень разважання
III ступень разважання
IV ступень разважання

## Спаборніцтва характараў

Вядомы педагог В.А.Сухамлінскі пісаў: "Шахматы – выдатная школа паслядоўнага лагічнага мыслення. Гульня ў шахматы дысцыплінуе мысленне, выхоўвае засяроджанасць, развівае памяць. Яна павінна ўвайсці ў жыццё як адзін з элементаў разумовай культуры".

На аснове назіранняў можна смела сказаць, што многія выпадкі рэзкага змяншэння няўважлівасці ў дзяцей супадаюць з пачаткам сур'ёзнага іх захаплення шахматамі і з'яўляюцца вынікам асаблівасці ўздзеяння шахмат на псіхіку.

Шахматы – гэта не толькі практыкаванне для розуму, але і інтэлектуальнае спаборніцтва характараў. Таму актыўнасць, настойлівасць, мэтанакіраванасць, вера ў канчатковы поспех становіцца неабходнай умовай дасягнення мэты.

Як магутны стымул для развіцця цікаўнасці шахматы ўносяць свой уклад у фарміраванне творчых якасцей асобы, уплываюць на развіццё памяці, бо ў разумовай дзейнасці шахматыста асноўнае значэнне мае не літаральнае, механічнае, а сэнсавае, лагічнае запамінанне.

Шахматы адыгрываюць важную ролю ў згуртаванні класнага калектыву, развіцці патрабавальнасці да сябе і да іншых. Таму адна з задач школы – гэта ўсталяванне ўзаемасувязі шахматных заняткаў з іншымі відамі карыснай дзейнасці, выкарыстанне іх як сродку навучання на ўроках і ў пазаўрочны час, далучэнне да розных відаў культуры, спорту, мастацтва, навукі.

З 1999 года ў нашай школе на базе трэцяга "Е" класа былі арганізаваны заняткі па шахматах. На працягу гэтых гадоў пастаянна праводзяцца школьныя турніры. У 2000 годзе зборная каманда нашай школы прымала ўдзел у гарадскіх спаборніцтвах на базе Палаца моладзі, дзе заняла прызавыя месцы.

У 2001 годзе каманда прымала ўдзел у міжнародным турніры па шахматах са зборнай Швецыі, у склад якой уваходзілі дзеці розных нацыянальнасцей. Многія дзеці дагэтуль падтрымліваюць сяброўскія стасункі. У 2001 годзе да нас у школу прыязджалі трэнеры па шахматах з Англіі для выяўлення патэнцыялу дзяцей і арганізацыі міжнароднага турніру са зборнай Англіі.

**Алена ЦАРЭГАРОДЦАВА,
намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце
сярэдняй школы №132 Мінска.**

Экзамен і свята – для большасці людзей гэтыя паняцці проста несумяшчальныя. Звычайна з экзаменам звязаны перагрузкі, хваляванне, трывожнасць, стрэсавы стан. А на гэтым экзамене – усё інакш: члены камісіі зацікаўлена, уважліва і добразычліва слухаюць Ірыну Вячаславаўну Гінько – настаўніцу гісторыі сярэдняй школы №3 Глыбокага. І не проста слухаюць: экзамен на вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю раз-пораз ператвараецца ў дыялог, прадуктыўныя прафесійныя ўзаеміны. Ірына Вячаславаўна выбрала ў якасці формы здачы экзамену абарону творчай работы аб вопыце актывізацыі навучання на ўроках гісторыі і курса "Чалавек. Дзяржава. Грамадства". Бадай, самае каштоўнае ў гэтым вопыце – шлях настаўніка ад выдзялення галоўнай для сябе і сваіх вучняў праблемы да яе практычнага вырашэння.

Можна па-рознаму ацэньваць "болевыя кропкі" адукацыйнага працэсу. І.В.Гінько акрэсліла адну з іх словамі В.А.Сухамлінскага: "Страшная гэта небяспека – гультайства за партай: гультайства шэсць гадзін кожны дзень, гультайства месяцы і гады – гэта разбэшчвае, маральна калечыць чалавека, і ні школьная брыгада, ні майстэрня, ні школьны ўчастак – нішто не зможа кампенсаваць таго, што ўпушчана ў самай галоўнай сферы, дзе чалавек павінен быць працаўніком, – у сферы думкі". Як пазбегнуць сіндрому гультайства? Як актывізаваць думку і дзейнасць школьнікаў?

Зазначым адразу: вучням Ірыны Вячаславаўны давялося задумацца пра гэта тады, калі сама настаўніца прыйшла да высновы, што працаваць па-старому больш нельга, недапушчальна. І не проста падумала пра гэта абстрактна, але і знайшла сабе ўзор для пераймання. Ім стаў Анатоль Аляксандравіч Гін, адзін з вядомых спецыялістаў па тэорыі вырашэння вынаходніцкіх задач (ТВВЗ). На многія з праблемных пытанняў прафесійнай дзейнасці настаўніца знайшла адказы ў яго кнізе "Прыёмы педагагічнай тэхнікі". І калі Ірына Вячаславаўна пасправавала распрацаваныя аўтарам прынцыпы рэалізаваць на ўроку, сустрэла недаверлівае пытанне вучняў: "Вы вырашылі нас пацешыць або мы будзем і далей так працаваць?" Аказалася – гэта сур'ёзна і надоўга, а ў дзейнасці на ўроку ёсць шмат цікавага, захапляючага, але пакуль яшчэ нязведанага. І перш за ўсё – гэта самастойная работа, пошук, даследаванне.

Перад вучнямі ставіцца простая, зразумелая і цікавая мэта, імкнучыся да якой яны па ўласнай ініцыятыве выконваюць неабходныя вучэбныя дзеянні. Дасягаецца гэта з дапамогай розных прыёмаў. Вось адзін з іх: "Вы ведаеце англійскага палітычнага дзеяча Уінстана Чэрчыля. Аказваецца, ён быў не толькі палітыкам, але і выдатным мастаком. Яго работы не раз дэманстраваліся на выстаўках. Пашукайце цікавыя звесткі пра іншых дзеячаў "вялікай тройкі" і падзяліцеся інфармацыяй са сваімі таварышамі". Так у дзевяцікласнікаў,

Атэстацыя

# Як пазбегнуць сіндрому гультайства?

## Адказ на гэтае пытанне ведаюць педагогі сярэдняй школы № 3 Глыбокага

якія вывучаюць гісторыю найноўшага часу, узнікае жаданне пазнаваць.

Другі прыём – "адтэрмінаваная адгадка". Загадка даецца на пачатку ўрока, а адказ (адгадка) знаходзіцца ў працэсе работы з новым матэрыялам. А яшчэ больш моцны эфект дасягаецца, калі загадка даецца ў канцы ўрока і да наступных заняткаў школьнікі шукаюць варыянты адгадак.

А вось яшчэ адна серыя прыёмаў выклікала асаблівую цікавасць у членаў экзаменацыйнай камісіі. Ірына Вячаславаўна расказала, як вучыць сваіх вучняў самастойна складаць і канструяваць пазнавальныя пытанні.

Рыхтуецца ўрок-прэс-канферэнцыя. Настаўніца выкладае матэрыял так, каб заставалася поле для пошуку ("Поле няведання") для вучняў. Менавіта тут могуць узнікнуць пытанні, прымеркаваныя да прэс-канферэнцыі. Прычым іх узровень можа быць розным: а) тыя, на якія школьнікі змогуць адказаць на наступным уроку; б) тыя, якія патрабуюць пошуку адказаў у літаратуры; в) пытанні, адказаў на якія, магчыма, не ведае ніхто (дзе ж знаходзіцца Бурштынавы пакой, куды знік крыж Ефрасінні Полацкай?).

Аб'яўляецца конкурс на самае складанае (праблемнае), на самае важнае, самае арыгінальнае – карацей кажучы, "самае-самае" пытанне.

Вывучаецца (вывучаны) тэкст. Задаюцца пытанні да яго. Пры гэтым дакладна вызначаюцца колькасць пытанняў, а таксама іх тыпы (пытанні на ўзнаўленне, развіццёвыя, нестандартныя і г.д.).

Асобны час і месца ўдзяляюцца тым пытанням, якія выводзяць вучняў на праблемы (у тым ліку на тыя, што ляжаць за межамі вучэбнай праграмы), якія пакуль яшчэ ніхто не вырашыў.

Важна, што кожны вучань знаходзіць у вучэбным працэсе месца для прэзентацыі і абмеркавання сваіх пытанняў: узаемнае апытанне ў групах і парах, выкарыстанне праблемных пытанняў у якасці тэм будучых дакладаў і інш. Гэта мае вялікае значэнне: калі пытанні запатрабаваны, калі яны заахвочваюцца, то абавязкова будзе гучаць на ўроку Яго Вялікасць Пытанне Вучня. І не толькі на ўроку. Ірына Вячаславаўна – кіраўнік раённага клуба інтэлектуальных гульняў "Эрудыт". Каманда сярэдняй школы №3 неаднаразова займала там першыя месцы, а ў 2001 годзе прымала ўдзел у абласным конкурсе інтэлектуальных гульняў.

Адна з асаблівасцей узаемадзеяння педагога з вучнямі – пастаянная апора на права выбару.

Настаўнік прапанаваў дзесяць пытанняў, з якіх вучань сам выбірае тыя, на якія ён будзе адказваць (не менш за вызначаны мінімум). Даецца трыццаць заданняў: з іх мінімум дзесяць трэба выканаць абавязкова, астатнія – па жаданню. Дарэчы, гэты прыём, які называецца "Марафон", І.В.Гінько пераняла ў свайго калегі па школе – настаўніка фізікі Ігара Яўгенавіча Сасімовіча. У ходзе "Марафону" кожны вучань выбірае той аб'ём і ўзровень складанасці, на якія здольны замахнуцца.

Ёсць і асаблівыя заданні, на якія вучні маюць права выбару, – гэта заданні алімпіяднага ўзроўню. За іх выкананне ставіцца адзнака не ніжэй "4", якая ўносіцца ў журнал толькі па жаданню.

Сярод арганізацыйных форм заняткаў у класах Ірыны Вячаславаўны пераважае работа ў мікрагрупах. Варыяцыі выканання і абмеркавання заданняў розныя: групы атрымліваюць адно і тое ж заданне, а вынікі агучваюцца спікерамі груп; групы атрымліваюць розныя заданні, але потым "трымаюць справаздачу" перад усім класам; заданні ў груп розныя, але ўзаемазвязаныя, усе працуюць на агульны вынік.

Шырока выкарыстоўваюцца гульнявыя тэхналогіі: дзелавая гульня, мазгавы штурм, рашэнне эўрыстычных задач. Бадай, далёка не ўсе вучні нашых школ могуць сёння прымаць удзел у "Пісьмовых дэбатах", заўтра – у гульні "НДЛ" (навукова-даследчая лабараторыя) і інш.

"Некаторыя лічаць, – гаворыць І.В.Гінько, – што трэба адмовіцца ад дамашніх заданняў. Але ці разумна гэта?"

У Ірыны Вячаславаўны да дамашніх заданняў асаблівы падыход. Па-першае, непасрэдна на ўроку арганізуецца іх абмеркаванне (сіламі саміх вучняў), каб эфектыўна засвоіць (замацаваць) новы матэрыял. Пры гэтым вучні па падручніку (канспекту) паўторна праглядаюць матэрыял, асэнсоўваюць і ацэньваюць яго яшчэ раз. Па-другое, зноў спрацоўвае свабода выбару: для адных вучняў дамашняе заданне – гэта неабходны мінімум, пасільны і зразумелы кожнаму; для другіх – узровень трэніроўкі ў самастойным і свядомым выкарыстанні ведаў; нарэшце, для трэціх – творчы ўзровень (стварэнне крыжаванак і чайнвордаў, падрыхтоўка тэматычных зборнікаў цікавых фактаў, прыкладаў, задач, анатацый артыкулаў па выбранай тэме, выраб плакатаў – апорных сігналаў, стварэнне вучэбных коміксаў і інш.).

Адно з важных дасягненняў настаўніка – пастаяннае ўключэнне школьнікаў у рэфлексіўна-ацэначную дзейнасць. Вучні заўсёды ведаюць, што, як, па якіх крытэрыях і паказчыках ацэньваецца на ўроках. Яны заўсёды ўпэўнены ў тым, што любая адзнака – не канчатковая: яе можна змяніць, палепшыць. Ацэньваючы сваю работу над складанымі заданнямі, школьнікі пішуць пасля выканання задачы: РЛ (рашыў лёгка), РЦ (рашыў цяжка) або НР (не рашыў). Яны самі вядуць улік выкананых заданняў у так званай адкрытай ведамасці (вывешваецца ў класе на сцяне).

Нярэдка на ўроках кожны на спецыяльным лістку – "Мішэні" – ацэньвае ў балах сваю працу на занятках, работу групы (класа), атмасферу ўрока. На "Мішэні" ёсць месца і для ацэнкі настаўнікам дзейнасці вучня. А гэта значыць, што пастаянна ідзе ўзгадненне адзнак і, адпаведна, павышаецца эфектыўнасць зваротнай сувязі і ўзаемадзеяння.

Старшакласнікі шчыра (у пісьмовай форме) падводзяць своеасаблівае рэзюмэ ўрока (сістэмы ўрокаў): што падабаецца на ўроках; што не падабаецца; што перашкаджае дабівацца лепшых вынікаў; якія дзеянні настаўніка ты лічыш няправільнымі; пастаў сабе адзнаку па дзесяцібальнай сістэме; пастаў (і абгрунтуй) адзнаку настаўніку па дзесяцібальнай сістэме.

Настаўнік і вучні адкрыты, разумеюць адзін аднаго на кожным этапе адукацыйнага працэсу. І гэта, вядома, уплывае на вынікі.

У 1998/99 навучальным годзе ў ліцэйскіх класах, дзе класным кіраўніком і настаўнікам працавала І.В.Гінько, было 20 выпускнікоў. З іх 17 паступілі ў ВНУ, 2 – у Віцебскі каледж сувязі. Цяпер Ірына Вячаславаўна – класны кіраўнік 10 "Б" (ізноў ліцэйскага) класа. І не толькі нестандартнай арганізацыяй вучэбнага працэсу "бярэ яна за душу" сваіх вучняў. Для дзяўчынак свайго класа яна ўжо некалькі гадоў вядзе клуб "Сяброўка".

Пад кіраўніцтвам Ірыны Гінько працуе кансультацыйны пункт для настаўнікаў раёна – выкладчыкаў курса "Чалавек. Грамадства. Дзяржава". А яшчэ... Але, зрэшты, калі гаворка ідзе пра творчага чалавека, Настаўніка, усяго не пералічыш.

Кваліфікацыйны экзамен стаў сапраўдным святам. Святам розуму, ініцыятывы, педагагічнага пошуку, інавацыйных знаходак.

**Уладзімір КУЧЫНСКІ,
прарэктар Віцебскага
абласнога інстытута
павышэння кваліфікацыі
іперападрыхтоўкі
кіруючых работнікаў
і спецыялістаў адукацыі.**

# Арганізацыйна-тэхнічная карта - праваднік па прадмету

## Для сістэмы адукацыі на сучасным этапе ўсё больш характэрнымі становяцца такія прынцыпова новыя рысы, як дынамізм і варыятыўнасць

Традыцыйная методыка арыентавана на нейкага "сярэдняга" вучня, таму ў навучальным працэсе пераважалі франтальныя формы арганізацыі ўрокаў. Такім чынам павялічваўся інфармацыйны аспект навучання, а псіхалагічны (развіццё асобы) выносіўся на дадатковыя ці пазакласныя заняткі, гэта значыць за рамкі навучальнага працэсу.

Традыцыйная класна-ўрочная арганізацыя навучальна-выхаваўчага працэсу не забяспечвае ўмоў для фарміравання творчых здольнасцей школьнікаў. Таму неабходна ў цэнтр увагі паставіць дзейнасць самога вучня.

Сёння, гаворачы аб адукацыі, трэба падкрэсліць імкненне ўлічваць інтарэсы ладзіць працэс навучання так, каб мэты гэтага працэсу суадносіліся з магчымасцямі і жаданнямі тых, каго вучаць. Мэты педагагічных сістэм: пераўтварэнне чалавека з аб'екта навучання і выхавання ў суб'ект, фарміраванне самастойнасці і здольнасці да самакіравання (самаадукацыі, самавыхавання, самарэалізацыі). Вучань і настаўнік выступаюць у якасці суб'ектаў кіравання як сваёй асабістай дзейнасцю і паводзінамі, так і паводзінамі і дзейнасцю іншых.

Новыя педагагічныя тэхналогіі адаптыўнай сістэмы навучання, узроўневай дыферэнцыяцыі, калектыўных спосабаў навучання, модульнай арганізацыі навучальнага працэсу дазваляюць мадэрнізаваць традыцыйныя метады.

У працэсе тэхналагічнага навучання фарміруюцца не толькі веды, уменні і навыкі пэўнага ўзроўню, але і выхоўваецца патрэба ў працы, у набыцці новых ведаў, патрэба творчай дзейнасці. Калі гэта сфарміравана ў чалавека, ён здольны да саманавучання, далейшага развіцця. Галоўнае, што павінна даць адукацыя і аб чым часта забываюць, – гэта не "багаж" ведаў, а ўменне валодаць гэтым "багажом".

Ужо ў пачатку 70-х гадоў групай вучоных была створана *канцэпцыя ўзбуйнення дыдактычных адзінак. Веды засвойваюцца больш сістэмна і хутчэй, калі яны даюцца вучню адразу блокам ва ўсёй сістэме знешніх і ўнутраных сувязей. Мінімальнай адзінкай навучальнага працэсу становіцца не ўрок, а цыкл урокаў ці модуль.*

Такім чынам, нам прыйшлося адмовіцца ад традыцыйнага паўрочнага планавання і перайсці на каляндарна-тэматычнае. Увесь матэрыял размяркоўваўся на блокі.

Так, у 6 класе беларуская мова прадстаўлена чатырма тэмамі: дзеяслоў, прыметнік, лічэбнік, займеннік. Таму я выдзеліла чатыры блокі. Кожны блок урокаў раскладваўся на модулі:

1) уводнае паўтарэнне (вучні на ўроку ўзнаўляюць усё неабходнае для ўспрымання новай тэмы);

2) вывучэнне новага матэрыялу (настаўнік падае матэрыял вучням блочна);

3) трэнінг-мінімум (вучні выпрацоўваюць уменні мінімальнага ўзроўню);

4) вывучэнне новага матэрыялу на дадатковым аб'ёме;

5) развіццёвае дыферэнцыраванае навучанне (рэалізуецца схема развіцця для кожнага вучня);

6) абагульняючае паўтарэнне;

7) кантроль (залік, кантрольны дыктант);

8) карэкцыя.

Спецыфіка прадмета беларускай мовы ў тым, што праграмай прадугледжаны ўрокі развіцця мовы, сярод якіх ёсць і кантрольныя пераказы. Таму я ў кожным блоку выдзеліла ўрокі развіцця мовы, і ўрокаў кантролю стала ўжо некалькі.

Большасць нашых вучняў не валодае навыкамі сумеснай дзейнасці, маючы арыентацыю перш за ўсё на сябе. Таму вельмі актуальнай стала арганізацыя сумеснай работы ў пары, групе, навучанне супрацоўніцтву, культуры ўзаемін.

Здавалася, што ў гэтай схеме было ўлічана ўсё: блочная падача матэрыялу, трохузроўневыя мэты да кожнага ўрока, улік індывідуальных асаблівасцей вучняў, рознаўзроўневае навучанне. Але каляндарна-тэматычнае планаванне не было скіравана на самастойную дзейнасць вучняў, яны не ўяўлялі канчатковага выніку сваёй работы. А ў справе навучання і выхавання працэсу самаразвіцця павінна быць адведзена самае шырокае месца, бо само чалавецтва паспяхова развівалася толькі шляхам самаадукацыі.

Часткова гэтая праблема вырашалася на Дальтан- і модульных уроках. Кожны вучань, карыстаючыся Дальтан- або модульным заданнем бачыў, што трэба вывучыць, што навучыцца рабіць, мог выбраць заданне, зыходзячы са свайго ўзроўню навучаемасці.

Калі разглядаліся нескладаныя тэмы, то знаходзіліся вучні, якія маглі самастойна працаваць над імі. Некаторыя мелі жаданне самастойна асвойваць цэлыя блокі. Можна ўявіць, колькі сіл і часу траціў настаўнік, каб даць магчымасць вучню самарэалізавацца.

Складана было выставіць і тэматычную адзнаку, якая складалася з адзнак за дамашнія заданні, пераказы, сачыненні, самастойныя работы, Дальтан-заданні, кантрольны дыктант. Адказныя вучні паступова выстаўлялі свае адзнакі на ліст і выводзілі тэматычную адзнаку. Іншыя такую работу не праводзілі. Таму прыходзілася траціць час на ўроку, каб выставіць адзнаку за тэму.

Улічваючы ўсё гэта, трэба было выбраць іншую форму работы. Так мы перайшлі да тэматычных заданняў (арганізацыйна-тэхналагічных карт вывучэння тэмы).

Тэматычнае Дальтан-заданне я распрацоўвала па падручніку Г.М.Малажай і інш. "Беларуская мова. 6 клас".

Спачатку ўказвала тэму блока ўрокаў і перыяд вывучэння тэмы. Пасля акрэслівала, што вучань у выніку павінен ведаць і ўмець. (Размяркоўваючы матэрыял на асноўны і дадатковы аб'ём).

Структура арганізацыйна-тэхналагічнай карты наступная:

1) тэма ўрока;

2) рознаўзроўневыя заданні (агульны ўзровень і дадатковы);

3) тып урока;

4) дата правядзення ўрока;

5) кантроль (указваюцца работы, адзнакі, за якія складаюць тэматычную адзнаку);

6) адзнака;

7) шкала адзнак (схема, па якой вылічваецца тэматычная адзнака).

На кожны блок складаецца асобнае тэматычнае заданне. У 6 класе – 4: "Дзеяслоў", "Прыметнік", "Лічэбнік", "Займеннік".

*На першым уроку па вывучэнню тэмы кожнаму вучню даецца арганізацыйна-тэхналагічная карта. Настаўнік праводзіць матывацыю, знаёміць з патрабаваннямі да работы над тэмай.*

*Далей ідзе работа з самой картай.* Вучні бачаць, што будзе вывучацца, калі, якія будуць праводзіцца кантрольныя работы, з чаго будзе складацца тэматычная адзнака.

Арганізацыйна-тэхналагічнай картай вучні карыстаюцца на кожным уроку. Яны адразу разумеюць, якога тыпу будзе ўрок (вывучэнне новага матэрыялу, замацаванне, урок развіцця мовы ці інш.) і калі.

У схеме на кожны ўрок указаны рознаўзроўневыя заданні. Калі вучань жадае самастойна вывучаць матэрыял, яму ў гэтым дапамагае тэматычнае заданне. Для тых вучняў, што прапусцілі некаторыя заняткі, арганізацыйна-тэхналагічная карта становіцца планам работы, бо там указана, што вучні павінны ведаць і ўмець і якія заданні выканаць.

*Калі вучань ведае, з якіх работ будзе складацца тэматычная адзнака, ён можа лепш падрыхтавацца і атрымаць добрую адзнаку.*

Таксама прасцей стала выстаўленне і самой тэматычнай адзнакі. На арганізацыйна-тэхналагічнай карце ў адпаведную графу вучань выстаўляе свае адзнакі і пры дапамозе алгарытму вылічвае адзнаку за ўсю тэму.

Арганізацыйна-тэхналагічная карта дазваляе задаваць рознаўзроўневыя дамашнія заданні, прычым узровень выбіраюць самі вучні.

Пасля вывучэння тэмы праводзім урок карэкцыі. У арганізацыйна-тэхналагічнай карце вучні пазначаюць моманты, якія засталіся ім незразумелымі ці выклікалі цяжкасці. Далей вучні аб'ядноўваюцца ў групы і працуюць над тэмамі, якія яны абазначылі. Дзеці, што нічога не пазначылі (засвоілі тэму лёгка і добра), становяцца кансультантамі. У канцы ўрока настаўнік каменціруе тэматычныя адзнакі.

Пасля можна прыступаць да работы па наступнай арганізацыйна-тэхналагічнай карце, якая дапамагае не толькі вучням, а і настаўніку.

Увогуле, мяняецца роля настаўніка ў навучальным працэсе, які становіцца сапраўдным дыялогам.

З першых этапаў узаемадзеянне і супрацоўніцтва настаўніка і вучня грунтуецца на больш высокім узроўні арганізацыі работы, дзе ўзаемадзеянне забяспечвае найбольш высокі ўзровень самаматывацыі вучнем навучальнай дзейнасці. У школьніка развіваецца здольнасць вызначаць межы сваіх магчымасцей, свае веды і ўменні.

Паступова супрацоўніцтва паміж настаўнікам і вучнем, вучнем і іншымі аднакласнікамі можа даць веды аб асабістых магчымасцях, г.зн. аснову ўмення вучыцца.

Усё гэта добра. Але неабходна падкрэсліць вельмі адказную місію настаўніка, які выбірае для свайго вучня шлях пазнання. Асабліва калі гэты шлях яшчэ добра не вывучаны. Таму кожнаму педагогу трэба памятаць наступныя словы К.Д.Ушынскага: "Всякий учитель должен знать, что каждая изобретенная метода есть только ступень, на которую должно становиться для того, чтобы идти дальше; должен знать, что ежели он сам того не сделает, то другой, усвоив себе эту методику, на основании ее пойдет дальше, и что так как дело преподавания есть искусство, то оконченность и совершенство недостижимы, а развитие и совершенствование бесконечны".

Станоўчыя вынікі такой сістэмы звязаны з тым, што дзеці ў рэшце рэшт разумеюць перспектывы навучання, а станоўчы выніковы эфект – звязаны з дынамічнасцю навучання, якая заключана ў варыятыўнасці зместу элементаў.

**Ірына КУШКІНА,
настаўніца беларускай мовы
сярэдняй школы №2 Фаніпаля
Дзяржынскага раёна.**

Сямейная дынастыя ёсць у Шэнеўскай сярэдняй школе Пружанскага раёна. Трыццаць гадоў выкладае гісторыю і дырэктарствуе Святлана Аляксандраўна Якімовец – выдатнік адукацыі СССР. Яна выхавала дзвюх дачок, якія таксама сталі настаўніцамі. Малодшая Ірына – філолаг, выкладае рускую мову і літаратуру ў гэтай жа школе.

НА ЗДЫМКУ: Святлана Якімовец з дачкой Ірынай.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

# У яркім суквецці...

## Пісьменніку Уладзіміру Глушакову — 50 гадоў



Сфера кожнага мастацтва абмежаваная. Толькі літаратура не мае межаў, бо слова, як і думка, мае неабсяжныя далягляды ў прасторы і часе. Яшчэ слынны Ян Парандоўскі прыкмячаў, што тэмай літаратуры можа быць усё – ад зоркі да атама. Пісьменнік жыве нібы ў зачараваным коле. З усіх бакоў яго акаляюць уражанні, "і яму дастаткова зірнуць на іх, каб трапіць пад іх уладу – здзіўленне, захапленне, жах ці хаця б звычайная сімпатыя дазваляюць яму ўбачыць іх такімі, якімі да яго ніхто іх не бачыў, і затрымаць іх, увасобленымі навек у слове".

Здараецца, што перад асобай, часцей у маладосці, паўстае неадольная патрэба стаць іншым чалавекам, навучыцца адчуваць сябе натуральна і годна пры самых размаітых абставінах. Але насамрэч дзеля гэтага ёй неабходна ўявіць сябе некім іншым, пераўзысці сябе, самавыхаваць з уласнай асобы дасканалы ідэал. Відавочна, трэба глянуць на жыццё "нібы з боку", "праз эфект прыхаванай камеры". У рэальным жыцці неэтычна сузіраць пакуты герояў збоку, але затое так па-чалавечы спачуваць ім і вучыцца на іх прыкладах жыццёвай мудрасці. Такое магчыма, калі ўвесці рэальнае жыццё ў чароўную сістэму мастацкіх вобразаў. Менавіта творчасць дае дзівоснае адчуванне, што як пісьменнік уладны над сюжэтам і героямі твора, так і праніклівы чалавек уладны над пакручастым лёсам. Магчыма, гэтыя абставіны ў ломаных варунках жыцця таленавітага хлопчыка Валодзі Глушакова з Давыд-Гарадка абумовілі яго настойлівае імкненне стаць пісьменнікам. Менавіта таму падлетак так упарта, нягледзячы на кпіны дарослых, садзіцца на цягнік, каб ехаць да Растова, а потым ужо пешшу дабіраецца да свайго этнічнага земляка Міхаіла Аляксандравіча Шолахава ў станіцу Вёшанская...

Вось як апісвае аўтар у рамане "Расплата" псіхалогію пісьменніка-пачаткоўца: "...не толькі аддаваўся ўсхвалёваным, напоўненым чарамі ўспамінам, якія не паспелі паблякнуць у памяці і набылі новыя, свежыя і разнастайныя колеры, а таксама больш багаты змест... Чым болей з'яўлялася гэтых замалёвак, ці, лепей сказаць, сцэнак з-пад майго пяра, якому, вядома ж, бракавала і вопыту, і ўмення, тым неадольней было жаданне да напісаных сцэн дабавіць яшчэ адну... А тое, што ўчора напісалася, – неяк дапоўніць, паглыбіць, давесці да ладу, а то і перапісаць начыста. З прыемным неспакоем адчуваў, што... засмоктвае ўсё глыбей... Думка пра ўласную кніжку здавалася фантастычнай, хаця самалюбны чарвячок ужо варушыўся ў грудзях. Аднак я доўга яшчэ б не адважыўся наведаць рэдакцыю тоўстага часопіса, доўга хадзіў бы коламі вакол недаступных і "свяшчэнных" "нёманскіх" сцен, каб не выпадак..." ("Развітанне на пачатку вясны", Мн., 2001. С.180).

Уладзімір Глушакоў належыць да тых глыбінна славянскіх аўтараў, якія ўкладваюць ва ўласную творчасць сябе, частку сваёй чалавечай і творчай асобы. Фактычна пісьменніцтва для яго – не толькі прафесія, любімы занятак, але і магчымасць удзелу ў духоўным жыцці сучаснікаў, спосаб роздуму аб хуткаплынным і вечным.

Свае погляды пісьменнік укладвае ў выказванні герояў. Персанажы Ул.Глушакова роднасныя чэхаўскім сваёй абвостранай цікаўнасцю да жыцця, якая нават у самых жорсткіх варунках зберагае ад адчаю. Героі пісьменніка не вінавацяць свет, не замыкаюцца ва ўласным самабічаванні. Яны не патрабуюць дасканаласці ад іншых, бо пазбягаюць думкі лічыць дасканалымі сябе, яны настойліва шукаюць любові, міласэрнасці і разумення. І надзея, спадзяванне на людскую сардэчнасць ратуе іх, кліча на шлях дабрадзеяння:

"Вузкая сцяжынка змяілася ўздоўж стромкага правага берага Гарыні. І я, выблытваючы ногі ў гумовых чобатах з пажоўкла-валакністага, падвялага травастою, нечакана пачуў шолах крылаў над галавою і амаль адначасова заўважыў узбоч дарогі цень, які павольна слаўся па траве. Гэта быў каршук – я адразу пазнаў яго. Мне падалося, што каршук нечым вельмі ўзбуджаны, што ён занепакоена, настойліва кліча мяне некуды, ледзь не падштурхоўвае ў спіну, ажно галаву міжволі даводзілася ўціскаць у плечы... Раптам бачу: другая птушка, падобна, сяброўка каршука, заблыталася крыламі ў перастаялай жылістай траве, якая, як на бяду, да ўсяго яшчэ пераплялася з кавалкам калючага ржавага дроту, што няведама адкуль і з'явіўся тут, – атрымалася нібыта па чыёйсьці злой волі сапраўдная пастка для птушкі і дробнага звера. Вось і гэтая небарака да крыві зрэзалася аб дрот, аслабла да таго, што стаяць не можа, на бок завальваецца... А пастка не адпускае!

Я наблізіўся да паланянкі, і тая даверліва падалася да мяне, да маіх рук, разумеючы, драпежная душа, што на гэты раз у чалавеку яе выратаванне...

Калі я нарэшце асцярожна вызваліў птушку з каварнага сіла, яна, прыпадаючы на знявечаную нагу, разы са два ўзмахвала крыламі, спрабуючы ўзляцець (і за кожным разам абрывалася сэрца ў грудзях!), і толькі за трэцім разам спроба ёй удалася. Затым, ужо разам, зрабіўшы нада мной некалькі развітальных кругоў, удзячныя птахі зніклі ў засмужанай раннімі прыцемкамі восеньскай сінечы" ("Год 1991: чужога гора не бывае..." "Алеся", 2001. №7. С.14).

Асабліва кранае сэрца чытача вобраз бабулі Наталкі, яе мацярынская апека над дзеткамі. Ледзь бачнымі мазкамі Ул.Глушакоў стварае яго ў размытай, пастэльнай манеры амаль прустаўскай школы "патока свядомасці". Думкі бабулі ўсюды суправаджаюць дзетак, унукаў, бы добры нябачны амафор у іх пакутным, "развэрсаным" лёсе. Сама такая неўладкаваная, бабуля Наталка супакойвае, "уміратварае", імкнецца прынесці радасць сваім дзеткам, унучкам, або, як яна ласкава іхназывае, "вочанькам". Яна нібы аберагае, атуляе іх ад жыццёвых нягод нябачным покрывам бясконцай дабрыні – не ўседаравання, але ўсеразумення...Менавіта яна прыходзіць у сне да ўнука, каб суцешыць яго пасля адыходу маці, на жаль, толькі ў сне... Але такім добрасным, светлым...: "Сон прыбачыўся пад самую раніцу. ...Бабуля Наталка, незабыўная Наталля Мікітаўна, бразнуўшы хорткай, пухнатым "калабком" укацілася ў двор. Пявучыя акруглыя слоўцы, як духмяныя гарошыны, перакочваюцца ў бяззубым роце:

– Чому ж ты, вочаньку мой, моўчыш? – бабуля хоча па звычцы палашчыць сваёй мяккай, як падушачка, далонню мае льняныя валасы, але тое, што адбываецца так проста ў маленстве, цяпер чамусьці не атрымліваецца, і яе рука бездапаможна завісае на паўшляху... Я здагадваюся, што мне трэба нахіліцца... Бабульчыны круглыя вочкі, асмужаныя вяночкамі зморшчынак, бядуюць – ліхая здагадка штурхае яе на высокі ганак ды ў хату... Я намагаюся ў сне растлумачыць бабулі Наталцы, што яе сына зараз на "вясне" – за тысячы кіламетраў ад палескага мястэчка, але не чую, як гэта заўсёды здараецца ў сне ў самы адказны момант, свой уласны голас, бездапаможна разяўляючы рот, і толькі па лагоднай, нейкай усепераможнай усмешцы на твары бабулі здагадваюся, што адлегласць цяпер у яе становішчы не перашкода..." ("Развітанне на пачатку вясны", Мн., 2001. С.506-507).

У гэтым сюжэтным эпізодзе рамана праз бачанне бабулі маці Люба паўстае своеасаблівым варыянтам вальтэраўскага "прастадушнага", воклічам чалавечнасці, такім шчырым і ярасным, тым больш што ён персаніфікаваны праз вобраз прыгожай шматпакутнай беларускай жанчыны: "А ты ж з пяці годочкоў роботу знала, горовала – спочыну не ведала, да не зажылася, моя донечка, ні за першым чоловіком (хворэў, неборака, покі молодым не сканаў), не збачыла свету белого і за другім, п'яніцою окаянным, покі не ўладзілася дорэшты..." ("Развітанне на пачатку вясны", Мн., 2001. С.507).

Ужо з першых старонак псіхалагічнага рамана Ул.Глушакова бабуля Наталка паўстае чалавекам з невынішчальным пачуццём уласнай годнасці, у якога няма арганічнай патрэбы ў кампрамісе. Безумоўна, мала такіх людзей на свеце, – яны, калі і хочуць саступіць у якоесьці імгненне, дык проста не могуць, не ў стане зрабіць гэта: не з падатлівага яны матэрыялу, яны з дрэва, якое не згінаецца, але толькі адразу ламаецца... Відавочна, амаль усе лепшыя ўспаміны дзіцяці звязаны з бабуляй: "...Эх, як святковалі, бывало, Рожаство! Ото ж і було врэмье... Врэмье-врэмье було! А стануць ето перад вокнамі да рэўнуць, бувало, тую песню-песню, а тая "звязда" ды на ўсе трыццаць шэсць рогоў! Дзеці-дзеці... душачцы цесно ў грудзях! Ні бітвы, ні калецтва ніколі не ведалі... Ого, нехай толькі які дурань зачне сварку?.. ты шчо?! У прошок сотруць! Словом, дзеці, умеў колішні народ весяліцца. Не ў прыклад вам – от шчо скажу. Цяперашнія колядніки – босота, грошу абу схопіць! А шчо б песню вывесці, ды по-колішняму? Ето трэба ім дзеток гоняць, га? Няхай собі бегаюць у радосці, весялосці... Холера носіць колсомольцоў розных... Э-э, нічогоўцы!

Бабуля гаворыць і ласкава гладзіць шурпатай далоняй нашы русявыя чубочкі..." ("Развітанне на пачатку вясны", Мн., 2001. С. 15-16).

Уладзімір Глушакоў – не толькі таленавіты эпік, але і бліскучы публіцыст (менавіта гэтая грань ягонай творчасці была адзначана ў 1998 годзе Дзяржаўнай прэміяй). Улюбёны яго жанр – эсэістыка, мастацтва неабыякавых, тых, хто верыць у найвялікшую сілу слова, мужнай грамадзянскай пазіцыі, велічную місію асветы і галоўнага яе ўвасаблення – кнігі: "Кніга прайшла агромністы шлях ад бяросты, світка і пергаменту да летапісных сведчанняў на паперы, здолела знайсці да нас дарогу з мінуўшчыны, калі, сапраўды, чалавецтва яшчэ сябе не памятала, бо нездарма ж сказана на ўсе часы: "Спачатку было слова..." Шмат зведала кніга на сваім цярністым і пакручастым шляху: на яе маліліся і яе ж прылюдна палілі на плошчах, яе ўшаноўвалі і яе ж ненавідзелі, за яе ўзнагароджвалі лаўрамі і каралі смерцю, наогул, без кнігі цяжка ўявіць сабе чалавецтва і кожнага з нас паасобку. Бо яна, кніга – неад'емная часцінка чалавека, яго духоўная субстанцыя. Яна пракладвала да чалавека дарогу праз тысячагоддзі і захавала сваю сутнасць" ("Беларусь новая", Мн., 2001. с.253).

Тыповы герой твораў Ул.Глушакова – ледзь ці не гогалеўскі "Маленькі чалавек", які ўпэўнены, што ад добрай волі і грамадзянскага сумлення яго залежыць хада гістарычных падзей. Ён гаспадар сваёй краіны. Фактычна ўся публіцыстыка пісьменніка – суперажыванне пакутам людзей, боль за славянства, праваслаўны люд, які на вачах гіне ад замежнай інфармацыйнай і фінансавай агрэсіі, гэтаксама, як і ад дэградацыі ўнутранай.

Некалі Канстанцін Мікалаевіч Бацюшкаў адзначаў, што "пасярод вялікіх пачуццяў сяброўства і любові ўспыхваюць нейкія сполахі эгаізму, зайздрасці, якія рана ці позна ўзгараюцца і сяброўства з каханнем вынішчаюць. Толькі высакародства і цнота (але цвёрдыя, дзейсныя) здольныя ўтаймаваць іх" (Бацюшкаў К.Н. "Нешта аб паэце і паэзіі" М., 1985. С.189).

Для пісьменніка раманная прастора – магчымасць для своеасаблівага роздуму-дыялогу. Героі Ул.Глушакова – быццам яго сямейнікі, з імі ён зніταваны ўнутраннымі сувязямі, розумам і сэрцам, пісьменніцтва – адбітак яго пошукаў дабрыні ў сэрцы чалавечым. Часам падаецца, што пісьменнік імкнецца асэнсаваць уласныя пакуты з дапамогай творчасці. Сюжэт тэтралогіі "Развітанне на пачатку вясны" – вобразнае вока ў эпіцэнтр падзей, якія аўтар перажыў: "...Дзіўна, – абыякава падумалася, – а цяпер куды яны спяшаюцца з такімі заклапочанымі, зласлівымі тварамі? На чарговы мітынг або шэсце?.." За акном усё жыло і рухалася, як у нямым кіно. Гукі, здавалася, не прасочваліся скрозь шэрыя панэльныя сцены. Я машынальна прыціснуўся гарачай скроняй да прахалоднага шкла, на якім з'явіліся... звілістыя дарожкі ад дажджу. Ці гэта былі чыесьці слёзы?.. Я пазіраў у засмужаную далеч за акном, яшчэ не ўсведамляючы да канца, што спяшацца мне цяпер больш няма куды" ("Развітане на пачатку вясны", Мн., 2001. С.498).

Уладзімір Глушакоў, як у свой час В.Р.Бялінскі, звяртаецца да публіцыстыкі з мэтай здабыцця чалавечай маральнай апоры, здольнасці супрацьстаяць злому ва ўсіх яго праявах. Такія героі проста неабходны аўтару – як кропка адліку, без якой быў бы немагчымым і незразумелым выкрывальны пафас апошняй маленькай аповесці – "Маскоўская Адысея".

Пісьменнік неаднойчы азадачваў даследчыкаў сучаснай літаратуры, масцітых крытыкаў невызначальнасцю межаў свайго таленту, менавіта здольнасцю існаваць па-за жанравымі "габарытамі", сумяшчаць у сабе строгую эпіку з яркай публіцыстычнасцю, трагізм гратэскавых формаў са шчырасцю лірычных адступленняў. Мы неяк апошнім часам прывыклі, як ні дзіўна, жыць стэрэатыпамі і штампамі, аж да знішчэння жывога агеньчыка радасці ў распачатай справе, і забыліся мудрую ісціну, што адзнака сапраўднай творчай асобы – шматстайнасць, выбуховасць, здатнасць да карэнных змен сутнасці мастацкіх жанраў, стварэння іх новых відавых інсінуацый. Відавочна, нельга падганяць талент пад агульны рахунак, затушоўваць яго праявы, а добрым словам і ўмелай падказкай падтрымліваць яго, каб уся размаітая гама колераў яго зазззяла ў яркім суквецці.

Часавая прастора твора Ул.Глушакова падаецца класічна расчыненай у шырокі свет чытацкай любові, бо запрашае кожнага з нас, як любога госця, ва ўзвышаны, шчымлівы свет сваіх запаветных вобразаў: "Боль страты, з якім, здавалася, нельга прымірыцца, паступова адступаў і прытупляўся. Але аднойчы... напаўзабыты боль нечакана востра разануў пад самае сэрца, – гэта калі, прыбегшы аднекуль, я схапіў чысты аркуш паперы, ручку і... толькі праз колькі хвілін быццам наляцеў на нейкую неадольную перашкоду, калі ліст да маці быў амаль напалову напісаны... Я не ведаю, на якім па колькасці спынюся... Ці спынюся наогул, пакуль жыве мая няўмольная памяць. Магчыма, лісты гэтыя і ёсць тая апошняя нітачка паміж намі, якую не змагла абарваць нават смерць..." ("Развітанне на пачатку вясны", Мн., 2001. С. 510).

**Мілена ГАЛУБІЦКАЯ.**

# Літаратура беларуская, людская, агульначалавечая...

***Здаўна прытрымліваюся думкі, што нічога ў гэтым свеце не бывае выпадковага. І тое, што лёс звёў мяне (а праз маю асобу і шматлікіх чытачоў) з гэтай прыгожай паляшучкай, таксама мае сваю мэту. Якую - мяркуйце самі...***

Валянціна Іванаўна Локун жыве ў Пінску, яна кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, знаўца і даследчык не толькі нацыянальнай, але і еўрапейскіх літаратур. Аб яе працы, поглядах на айчынную літаратуру і пойдзе наша размова.

**- Валянціна Іванаўна, кожная дарога недзе бярэ свой пачатак. З чаго пачынаўся Ваш шлях даследчыка літаратуры?**

– Як гэта ні дзіўна, з Івана Тургенева. Хоць я даўно працую над творамі беларускіх пісьменнікаў, але пачаткам для мяне была менавіта творчасць рускага класіка. І ўжо праз яго "высокую" прозу я змагла лепш зразумець і ацаніць Васіля Быкава, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча Да Быкава ў мяне стаўленне асаблівае. Ён, як вядома, належыць да пісьменнікаў адметнага ў савецкай літаратуры кірунку "лейтэнанцкай прозы". Характарызаваўся гэты напрамак сваёй абвостранай рэалістычнасцю, праўдзівасцю ў адлюстраванні "вобраза" вайны і характару чалавека. Адсюль вынікала і тэма маёй дысертацыі "Асаблівасці стылю беларускай ваеннай прозы". Наогул, ваенная тэматыка стала для мяне галоўнай тэмай у навуковай дзейнасці. Дамінуе яна і ў маіх першых дзвюх кнігах: "Да новых вышынь" і "Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы".

**- Не так даўно выйшаў з друку трэці том "Гісторыі беларускай літаратуры XX ст." Сярод аўтараў кнігі ёсць і Вашае імя...**

– Так, для гэтага тома я напісала раздзел аб творчасці Івана Шамякіна. Праца над гэтым раздзелам была досыць складанай: трэба было прааналізаваць каля 40 раманаў і аповесцяў пісьменніка, а таксама яго драматургію і публіцыстыку. І хаця ў выданні ёсць часавыя абмежаванні, у раздзеле разглядаюцца і творы 90-х гадоў, разнастайныя па тэматыцы, ідэйнай скіраванасці і ўвогуле асэнсаванні лёсу чалавека. У заключны том гэтага маштабнага акадэмічнага праекта павінны ўвайсці мае артыкулы аб творчасці Уладзіміра Дамашэвіча, Алеся Асіпенкі, Валянціны Коўтун. Спадзяюся ў недалёкі час убачыць надрукаванай яшчэ адну маю працу – манаграфію "Васіль Быкаў у кантэксце сусветнай літаратуры", яна ўжо ўключана ў выдавецкі план Інстытута літаратуры на 2003 год.

**- Ці з'явіліся ў апошні час якія новыя падыходы ў вывучэнні беларускай літаратуры?**

– Безумоўна. Асабліва важна, што беларуская літаратура пачала вывучацца ў кантэксце сусветных літаратур. У першую чаргу славянскіх, зразумела. Раней мы ведалі адзін "кантэкст" – савецкая шматнацыянальная літаратура. Мы адмаўлялі заходнееўрапейскую, бо гэта была літаратура "згубленага пакалення", яна была "экзістэнцыяльнай", "мадэрнісцкай", "авангарднай". А ўсё гэта супярэчыла канонам савецкай школы. І ўсё ж, нягледзячы на перашкоды, наколькі гэта было магчыма, пісьменнікі выходзілі за шматлікія абмежаванні, бо талент, калі ён сапраўдны, заўсёды вышэй за ідэалогію, за палітыку. Ён – высокамаральны, агульначалавечы. Менавіта праз гэты агульначалавечы пачатак нацыянальная проза і судакранулася з літаратурай еўрапейскай. Аб гэтым сведчыць спадчына Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага і пазнейшых творцаў – Івана Мележа, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча і інш.

Такім чынам, мы выводзім айчынную літаратуру на сусветныя прасцягі, супастаўляем яе развіццё з развіццём еўрапейскай эстэтычнай думкі. Гэта вельмі важны момант у развіцці сучаснага літаратуразнаўства.

Другі момант – "зрошчванне" літаратуразнаўства і філасофіі. Пры ўсім сваім багацці і разнастайнасці форм сучасная літаратура прасякнута філасофскім зместам, алегорыяй. Яна становіцца ўсё больш метафарычнай. Цяпер ужо немагчыма даследаваць літаратурны працэс не абапіраючыся на дасягненні беларускай думкі, дарэчы, вельмі рознай у плане асэнсавання свету і асобы чалавека.

**- Валянціна Іванаўна, мне вядома, што Вам больш даспадобы творы класічнага рэалізму. Цікава, а як ставіцца даследчык літаратуры да твораў сучасных? Каго з пісьменнікаў Вы маглі б адзначыць?**

– У нас зараз ёсць вельмі таленавітыя аўтары, са сваім адметным "почыркам". Для мяне гэта найперш Віктар Казько. Яго апошні раман "Бунт незапатрабаванага праху" можна лічыць этапным у развіцці айчыннай літаратуры. Тут вам і традыцыя, і індывідуальнае аўтарскае "я", і ўплыў іншых літаратур... Гэта, без перабольшання, "Уліс" на беларускай нацыянальнай глебе. А раман "Суд у Слабадзе", па-мойму, так і застаецца непераўзыдзеным шэдэўрам сусветнай літаратуры XX стагоддзя.

Імкнуся нічога не прапусціць з твораў Андрэя Федарэнкі. Цікавы і сур'ёзны пісьменнік, ухвальна, што ён не "стаіць на месцы", шукае новыя эстэтычныя сэнсы, змястоўна новыя маральныя арыенціры. Заўсёды з цікавасцю чытаю Барыса Пятровіча, Валянціну Коўтун, Галіну Багданаву, Людмілу Рублеўскую. Свой "почырк" маюць і Юры Станкевіч, Франц Сіўко. Увогуле я за тое, каб літаратура была разнастайнай: рознай па форме, па стылю. Галоўнае, каб яна адстойвала сваё – нашае – беларускае, людскае, агульначалавечае.

**Наталля АЛЁХІНА.**



Выставы

# Пабразгаць рыцарскай зброяй

## можа пры жаданні любы мінскі школьнік, завітаўшы ў Ліцэй БДУ



А падаравалі такую непараўнаную магчымасць школьнікам Беларускі дзяржаўны універсітэт, Ліцэй БДУ, ваенна-гістарычны клуб "Княжы Гуф", індывідуальны прадпрымальнік Андрэй Перапечка і кавярня "Грунвальд" - арганізатары унікальнай выставы "Рыцары Вялікага княства літоўскага, рускага і жамойцкага", якая праходзіць гэтымі днямі ў сценах Ліцэя БДУ.

"Пабразгаць зброяй" для наведвальнікаў выставы (пераважна бацькоў са сваімі малымі дзецьмі, а таксама арганізаваных вучнёўскіх груп са сваімі настаўнікамі) - зусім не метафара, а справа самая што ні на ёсць рэальная. Кожны з аматараў рыцарскай даўніны мае магчымасць, завітаўшы на выставу, начапіць на сябе рыцарскія латы (вага іх, дарэчы, сягае 30 кг), узяць меч, надзець шлем ды паглядзець на сучасны свет праз вузенькую вочную шчылінку зусім іншым - "рыцарскім" - позіркам. Асабліва апантаныя пры жаданні могуць нават зымітаваць і сапраўдны двубой - балазе разнастайнасць прадстаўленых экспанатаў, уважлівасць гаспадароў да наведвальнікаў ды сама плошча выставачнай залы гэта дазваляюць.

Зрэшты, будзе няправільным меркаваць, што выстава "Рыцары ВКЛ" - хай сабе і рэальная, ды ўсяго толькі відовішчная забаўка. Экспазіцыя дае шырокае ўяўленне пра ўвесь сярэднявечны рыцарскі "антураж", пачынаючы ад самых розных відаў узбраення (мячы, кінжалы, баявыя сякеры, непасрэдна самі даспехі і нават такія грувасткія кідальныя машыны, як катапульта і арбалет) і заканчваючы адмысловымі прыстасаваннямі для пакарання рыцараў (гэтак званы драўляны конь, калодкі, спецыяльныя металічныя маскі ды інш.). Дарэчы, усе экспанаты прадстаўлены мінскім рыцарскім клубам "Княжы Гуф" (заснаваны ў 1999 годзе, кіраўнік - Фёдар Міхееў) і выраблены непасрэдна сябрамі гэтага клуба - "прафесійнымі" сучаснымі рыцарамі - з захаваннем усіх правіл гістарычнай рэканструкцыі. На некаторых экспанатах можна заўважыць свежыя сляды "баявога хрышчэння" - увагнутасці ад "жывых" удараў падчас папулярных цяпер рыцарскіх фестываляў...

Выстава "Рыцары ВКЛ" працуе без выхадных і прадоўжыцца да 5 мая. І ўвесь астатні да яе закрыцця час да паслугаў наведвальнікаў - займальныя аповеды дасведчаных экскурсаводаў (супрацоўніцы Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі Юліі Ксяневіч і студэнткі БДУ Кацярыны Ляшкевіч) пра гісторыю вялікалітоўскага рыцарства наогул і сістэму рыцарскага выхавання ў прыватнасці. Выхаванне, што трымалася на трох кітах: пасвечанасці Богу, адданасці Радзіме і вернасці жанчыне. Каштоўнасці, паміж іншым, вечныя, на якіх можа выхоўвацца і сучасны школьнік.

**Мікола ЧЭМЕР.**

НА ЗДЫМКАХ: выстава "Рыцары ВКЛ" наўрад ці пакіне каго-небудзь абыякавым.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Рэгістрацыйны нумар 197.**

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання — 36-43-71; інфармацыі — 36-43-71; навукі і ВНУ — 36-44-25; кіравання адукацыяй, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22. bng@e-mail.ru

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.
Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Ала ШАЎЦОВА.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.
Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 1867
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 3.4.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экзэмпляраў.